

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 8(91) Жнівень 2001 August Год выд. 9.


## УЛАДЗІМІР ГАНЧАРЫК
## НАЗВАНЫ АДЗІНЫМ КАНДЫДАТАМ АД ШЫРОКАЙ КААЛІЦЫІ НА ПРЭЗІДЭНЦКІХ ВЫБАРАХ

*Менск, 21 ліпеня. Пасля амаль пяцігадзіннай дыскусіі прэтэндэнтаў на пасаду кіраўніка дзяржавы — Уладзіміра Ганчарыка, Сямёна Домаша, Сяргея Калякіна, Паўла Казлоўскага і Міхаіла Чыгіра, — якая адбылася 21 ліпеня, стала вядомае імя адзінага кандыдата ад шырокай грамадзянскай кааліцыі. Ім стаў лідэр Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай Уладзімір Ганчарык.*

Паводле яго слоў, "усе члены "пяцёркі" застаюцца ў "пяцёрцы" і будуць працаваць на адзін вынік". У выпадку перамогі на выбарах Ганчарык паабяцаў стварыць прэзідэнцкі савет, у якім будзе задзейнічана ўся "пяцёрка".

Дакументы для рэгістрацыі падалі ўсе пяцёра прэтэндэнтаў, але як толькі будзе зарэгістраваны Ганчарык, астатнія здымуць свае кандыдатуры і будуць працаваць у адной камандзе.

Стала вядома, што акрамя Уладзіміра Ганчарыка, названы яшчэ некалькі кандыдатаў, якія могуць адыграць ролю адзінага ў тым выпадку, калі Ганчарык не будзе зарэгістраваны. Хто стаіць пад нумарам два, Уладзімір Ганчарык паведаміць журналістам адмовіўся. Па неафіцыйнай інфармацыі, кандыдатам № 2 вызначаны Сямён Домаш.

Уладзімір Ганчарык выказаў думку, што Міхаіл Марыніч, Леанід Сініцын і і іншыя прэтэндэнты ў бліжэйшы час далучацца да "пяцёркі".

БелаПАН

<><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><>



**Спадар Васіль БЫКАЎ —**

**найвыдатнейшы беларускі пісьменьнік ды вялікі патрыёт свайго народу. Творчасьць В. Быкава адкрыла Беларусь Эўропе і сьвету. Ягоныя кніжкі выдадзеныя больш чым у 60 краінах. Свайму народу Ён служыў і служыць сумленна і шчыра.**

**Паважаны Сп. Васіль! Вітаем Вас на старонках нашае незалежнае газэты.**






## Хто ён, гэты Ганчарык, зь якога ён роду?

- Бацька быў сельскі настаўнік, маці -- калгасьніца. У яе 8 класаў адукацыі, працавала апошні час загадчыкам фэрмы, гадавала сьвіней. Працавала, напэўна, добра, бо мае ордэн. Цяпер фэрмы ўжо няма й сьвіней няма. Бацька, на жаль, памёр, -- гэта франтавыя траўмы паявіліся. Маці, дзякаваць Богу, жыве. Яшчэ нейкая гаспадарка, карова ёсьць. У сям'і нас было чацьвёра: двое дачок і двое сыноў. Я старэйшы. Брат - рабочы, працуе. Адна сястра таксама рабочая, а другая працуе эканамістам у Менску. У мяне сын, дачка й трое ўнукаў - добрыя вельмі хлопцы. Я спадзяюся, што яны вырастуць добрымі грамадзянамі й будуць добрымі спэцыялістамі. Мы з маёй жонкай разам вучыліся ў Інстытуце народнай гаспадаркі, рана жаніліся, сям'ю стварылі, добрую сям'ю. Жылі ў інтэрнаце, і ў саўгасе, і на кватэрах, і многа пераездаў было. Жонка цяпер дома, не працуе. Мы беларусы з Лагойшчыны, цудоўнага маляўнічага краю - беларускай Швайцарыі. А пачыналі, як усе: была зямлянка пасьля вайны, потым, 1947 годзе, збудавалі першую хаціну, такую невялічкую. Яна й цяпер ёсьць. У тыя пасьляваенныя гады кавалак хлеба - гэта ўжо было цудоўна, а як цукерку можна было купіць - дык гэта ўжо вельмі прыемна. Потым працавалі ў калгасе, бацька ў школе, маці калгасьніцай. Яна вельмі разумная жанчына, больш валявая за бацьку. Ёсьць такія людзі, якія карыстаюцца аўтарытэтам у вёсцы, а раней вёска была іншая - гэта была свайго роду абшчына. Людзі ня ведалі, што такое замкі. Ніколі ніхто не хаваў штосьці. І жылі больш дружна. А цяпер там развал, калгас ужо намінальны, людзі, на жаль, многа п'юць - адсюль і ўсе беды. Ведаеце, калі ў чалавека няма маёмасьці - гэта "перакаціполе". Пра які патрыятызм можна гаварыць, пра якую любоў да Радзімы!..



~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~

Чатыры ўдзельнікі дэмакратычнае "пяцёркі" на супольнай прэсавай канфэрэнцыі заявілі пра стварэньне Прэзыдэнцкай Рады й Грамадзкай Рады палітычных партыяў пры штабе "адзінага" дэмакратычнага кандыдата. Прапанова ўвайсьці ў каманду зробленая М.Марынічу й А.Ярашуку. Выбарчай кампаніяй Ганчарыка будзе кіраваць ачольнік аб'яднаньня "За новую Беларусь" Васіль Лявонаў, аб'яднаны штаб ачоліць лідэр жаночай партыі "Надзея" Валянціна Палевікова.

+++++++++++++++++++++++++++++++++++++++

"Пяцёрка" рашыла, што ўсе, акрамя Ўладзімера Ганчарыка, становяцца намесьнікамі кіраўніка адзінага штабу. Аднак, хто будзе ўзначальваць штаб адзінага кандыдата, члены "пяцёркі" пакуль ня высьветлілі. Падчас паседжаньня было прынята рашэньне стварыць пры штабе Савет, які будзе працаваць з партыямі.

Сябры пяцёркі размеркавалі паміж сабой участкі, за якія яны будуць адказваць. За Міхаілам Чыгіром, напрыклад, будзе лічыцца Менская вобласьць. За Паўлам Казлоўскім – Брэсцкая, Сямён Домаш будзе адказваць за Гарадзенскую вобласьць, Сяргей Калякін пакуль ня вызначыўся.
~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# Нацыяналізм як будучыня

Нацыяналізм вырастае са свабоднай, разняволенай і пазбаўленай страху «Я»-асобы. Свабоднае ў сабе самім «Я» прыходзіць да неабходнасці вызнання нацыяналізму як умовы выжывання, станаўлення і росквіту нацыянальнага соцыуму ў нацыянальнай дзяржаве.

Перспектыва поспеху асобнага «Я» і калектыўнага «Мы» палягае сёння ў развіцці нацыянальнай ідэі, інакш кажучы, у нацыяналізме. Зразумела, што я маю на ўвазе наш — беларускі — нацыяналізм у межах беларускай тэрыторыі.

Наш нацыяналізм — гэта поле, на якім мы павінны згуляць сваю беларускую гульню. Ужо свеціцца табло, выстаўленыя бар'еры, робяцца стаўкі. Каманда «гасцей» правярае свой рыштунак. Але дзе нашы гульцы? Дзе нашы галкіперы, форварды, абаронцы? Асмелюся сцвярджаць, што яны ёсць, толькі раскіданыя хто дзе. Яны чакаюць сігналу, позвы, узмаху сцяжком. Зрэшты, заклік ужо зроблены, і трэнеры выбіраюць лепшых і перспектыўных. Хутка траву гульнёвага поля распаласуюць падэшвы буцаў на нагах нашых атакуючых. «Падаючы — паўстань!» — ламантуюць трыбуны. «О — І наперад! Наперад! Наперад!»

Нацыяналізм — гэта высокі стыль, выкшталцоная геаметрыя, вольны ад забабонаў густ; гэта пачуццё меры і бязмежжа, гармонія формы і зместу, чысціня рук, пастрыжаныя пазногці і здаровы тон скуры.

Быць нацыяналістам — значыць валодаць перспектывай, мець будучыню і ўпэўненасць. Нашае вызнанне нацыяналістычнай веры — цаглінка ў падмурак гмаху нацыянальнай дзяржавы.

Быць нацыяналістам — значыць разумець, што яшчэ няма нацыянальнага беларускага Адраджэння як такога — ёсць толькі асобныя факты подступаў да апошняга і негвалтоўнай барацьбы за яго. На жаль, значная частка нашага грамадства, найперш інтэлігенцыя, разумее. Адраджэнне беларускай нацыі ў сістэме вербальнага працэсу, у той час як Адраджэнне — гэта сітуацыя выбару паміж Космасам — гарантам далейшага існавання і Акіянам у якасці элементарнага даэтнічнага стану. Зразумела, мы прагнем Космасу, хоць Акіян, бадай, таксама выхад у нашым выпадку. Але такі выбар быў бы паўтарэннем протагенетычнага шляху, нашым этнасам аднойчы ўжо пройдзенага.

Сцвярджэнне нацыяналізму як дзяржаўнай ідэалогіі акрамя эканамічнага пад'ёму дае грамадству шанец вярнуцца на шлях эстэтыка-культурнага прагрэсу. Нацыяналізм — другое дыханне нашай культуры, філасофіі, літаратуры. Гэта наш інстынкт, інтуіцыя, душа і дух разам.

Мы нацыяналісты, калі абараняем сваё дзіця ад забойцы; калі даглядаем хворага ці старога чалавека; калі абараняем свой род, радню; калі заступаемся за жанчыну ці суседа; мы нацыяналісты, калі на знявагу нашага нацыянальнага імя адказваем рашуча і з годнасцю, не пасягаючы на чужое, але абараняючы сваё.

Мы — нацыянал-футурысты, мы шукаем будучыню ў нашых сэрцах, а не ў мошчах імпатэнтных рэлігіяў, не ў закліках іншародных муміфікатараў нашых духу і волі. Самыя элітарныя клубы — клубы беларускіх нацыяналістаў. Дзверы туды адчыненыя для тых, хто жадае БЫЦЬ, хто праблему страўніка вырашае сціплым абедам і спартанскай вячэрай, хто не цураецца фізічнай працы і штодзённай работай духу сталюе сваю волю да годнага жыцця, да пераможнага змагання. Слова БЕЛАРУСЬ як тэрмін і сімвал з'яўляецца непадзельным, адзіным і незаменным. Гульні вакол тэрмінаў «Літва», «Крыўя», «Белая Русь» пакінем паэтам, палітыкам-аднадзёнкам і гісторыкам. Для нас сёння і назаўжды — толькі Беларусь!

З ростам нацыянальнай свядомасці ідэя нацыяналізму расце і шырыцца як ідэя выратавання нацыі. І гэта апошняя не можа не ўваходзіць у эстэтыка-культурны кантэкст нашага Краю. Больш таго, нацыянальная ідэя выступае ў якасці асенізатара, санітара культурнай зоны, у межах якой дэградуюць і распадаюцца чужародныя элементы, а на іх месцы прарастаюць кветкі беларускага культу, які ствараем мы самі, а не для нас — хтосьці.

Нацыяналізм — філасофія нашай будучыні і методыка нашай практыкі. Новую Беларусь мы зможам пабудаваць толькі на падвалінах нацыянальнай ідэі. А молатам, кавадлам і агменем, з дапамогаю якіх мы будзем выплаўляць формы нацыянальна-дзяржаўнага цела, стане нам нашая кроў, нашая глеба і нашая зацятасць у сваёй праўдзе. Усё гэта мы сінтэзуем, а раскіданыя ў гісторыі беларускія шляхі накіруем да адной мэты.

Нацыяналізм — гэта прарыў за межы сённяшняй Беларусі, за межы не намі прыдуманых і развітых стэрэатыпаў, адзін з якіх найбольш вядомы як «беларуская памяркоўнасць». Калі яна і сапраўды прысутнічае ў нашым характары, дык толькі як цярплівае вычэкванне зручнага моманту. Мы проста цярпліва назіраем, да якой ступені нахабства здольныя дайсці ворагі Беларускага Духу. Мы фіксуем кожны рух супраць нашай свабоды, памятаючы, што толькі ва ўмовах самастойнага трывання і магчыма эстэтыка-культурная і сацыяльна-эканамічная рэвалюцыя.

Нацыяналізм — гэта новая эстэтыка. Гэта значыць, што мы здаём у музей лапці і сярмягу, савецкую ватоўку і малінавы пінжачок эпохі першага прэзідэнта РБ. Нацыяналізм вучыць нас годнасці і самапавазе, вучыць не цурацца гальштука і белых каўнерыкаў. Быць беларускім нацыяналістам — прэстыжна, прыстойна, перспектыўна. А калі табе скажуць, што нацыяналізм — гэта дрэнна, у адказ ты ўсміхнішся: о, так думаюць недасведчаныя альбо ворагі. Першыя рана ці позна зразумеюць, другія — пацерпяць паразу. Будзем памятаць, што праўда на нашым баку, што за намі гісторыя нашага народа, прыватныя гісторыі кожнага беларускага роду. Мы ідзём па сваім полі, цягам доўгіх гадоў мы ўраблялі яго, плод рук нашых належыць нам і толькі нам. І толькі ад нас залежыць, ці скарыстае чужынец з нашага плёну.

**Славамір АДАМОВІЧ**

<><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><>

# Зайздрасць

Аляксандар ДУБРАВІН

Пісаў ужо некалі пра гэта, але тэма не знікае і толькі набывае злабадзённасць. А свядомы беларус мусіць бачыць не толькі лепшыя, але і горшыя якасці сваёй нацыі. Таму, даруйце мне, хачу сказаць колькі слоў пра тое, што нам замінае стаць кансалідаваным і моцным еўрапейскім народам. А гэта – зайздрасць – «хвароба чырвоных вачэй», як яе завуць кітайцы. Кепская такая хіба на розных узроўнях жыцця. Адкуль і калі яна прыкінулася да беларусаў – сказаць цяжка. Магчыма, што была адвеку, калі яшчэ Бог дзяліў людзям абшары. І наканаваў нам ад яе пазбавіцца, каб набыць шчасце і стаць народам. Мусіць таму беларусам і шчасця няма, што зайздросцяць адно аднаму?

Разбуральную моц зайздрасці мы можам лёгка прасачыць у шматлікіх бойках і спрэчках шляхты, у лакальных войнах ды сутычках. Колькі разоў так было: на краіну напалі ворагі, выйсце толькі ў дружным і смелым паспалітым змаганні, а беларусы паміж сабой пачынаюць высвятляць, хто з іх у тым рушанні будзе галоўным. Каб толькі нікому не перадаць гонару. За аўтарытэт, звычайна, лічаць якога-небудзь замежнага валацугу, ды толькі не свайго хлопца. Маўляў, як гэта так – такога як я, ды паставіць на чале, ды даць яму такую павагу? А я чым горшы? Не, я лепей буду сам сабе начальнік, а ён – сам сабе. А калі ўсё ж паставяць нада мной, дык я яму пакажу, хто тут галоўны. Ён тады паскача!

Але найбольшую шкоду зайздрасць прыносіць на бытавым узроўні, бо прымушае беларуса прыніжаць і бэсціць усё сваё, роднае. Напрыклад, тутэйшы, наш, родны, беларускі дзядзька нешта вынайшаў альбо напісаў сусветна геніяльнае. І што далей? А далей – пачынаецца наш менталітэт. Чалавек іншай нацыянальнасці парадаваўся б за земляка. Ганарыўся б ім, ды іншым распавядаў. А наш зайздроснік пачынае шукаць хібы, крывіць губы, строіць кепікі ды плявузгаць пра генія абы-што. І калі такім чынам прынізіць, тады ўжо мяркуе, што з геніем зраўняўся.

А колькі энергіі вызваляе зайздрасць, калі трэба грошы дзяліць! Між іншым, уся ўлада Лукашэнкі да гэтага часу трымаецца выключна на зайздрасці. Усе спецслужбы, калі хочуць пасварыць паміж сабой апазіцыйных палітыкаў, падкідаюць ім для сваркі грашовыя праблемы. І вельмі часта дабіваюцца поспеху! Напрыклад, быў аднойчы ў нас лідэр супраціву пасля «Маршу Свабоды». А потым яму шапатнулі, што без яго падзялілі нейкія грошы. І досыць! На наступны дзень лідэр распачаў сваю асобную непрымірымую барацьбу супраць былых таварышаў. Якую вядзе да гэтага часу.

Ведаюць беларусы пра гэтую сваю заганную рысу, але пазбавіцца ад яе пакуль што не спяшаюцца. Сядзяць небаракі кругам, пазіраюць адно на аднаго, спрэс усе галадранцы, абкрадзеныя, падманутыя, расцярушаныя, а ўсё адно – зайздросцяць і сварацца. Так і вядзецца….

****************************************

# Грамадскія дзеячы Беларусі аб вылучэньні адзінага кандыдата

У. ГЛОД, Р. ХМЯЛЕВІЧ (Н. С.)

*Шэраг беларускіх грамадскіх дзеячаў пракамэнтавалі абнародаванае 21 ліпеня рашэньне «пяцёркі» прэтэндэнтаў на пасаду прэзідэнта Беларусі ад шырокай грамадзянскай кааліцыі аб вылучэньні адзіным кандыдатам Уладзіміра Ганчарыка.*

«Сённяшнім рашэньнем з усіх нас зьняты вялікі цяжар, — заявіў былы спікер Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч. – Мы павінны цяпер аб'яднацца і ўсе разам працаваць на чалавека, якому «пяцёрка» даверыла быць першым. Я заклікаю актывістаў усіх апазіцыйных партыяў адкінуць партыйныя і асабістыя амбіцыі і дружна працаваць на Уладзіміра Іванавіча Ганчарыка».

Народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч назваў сённяшняе рашэнне «пяцёркі» «грамадзянскім подзвігам». Ён выказаў упэўненасць у тым, што прадстаўнікі дэмакратычнага руху Беларусі змогуць выйграць прэзідэнцкія выбары. Ніл Гілевіч назваў прынятае рашэньне «вельмі добрым рашэньнем людзей, для якіх на першым месцы апынуліся не асабістыя амбіцыі, а гонар краіны».

Старшыня аргкамітэта руху "За новую Беларусь" Васіль Лявонаў сказаў, што ён «шчаслівы сёння адчуваць сябе беларусам». Некаторыя цяперашнія кіраўнікі Беларусі, адзначыў ён, называюць беларускі народ «быдлам». «Сёння я яшчэ раз упэўніўся, што беларускі народ – гэта годныя і паважаныя людзі», — сказаў Васіль Лявонаў.

Ганаровы старшыня АГП Станіслаў Багданкевіч сказаў, што ён асабіста вітае, «што нарэшце-такі ёсць адзіны кандыдат, што з'явіўся лідэр Ганчарык, а астатнія будуць працаваць адзінай камандай і ўвойдуць у прэзідэнцкі савет. Гэта азначае, што мы вяртаемся да калектыўнага кіравання ад адзінаасобнага таталітарнага. Багданкевіча «дужа ўсцешыў і той факт, што ўсе апазіцыйныя сілы, якія прысутнічалі на апошнім паседжанні руху «За вольную Беларусь», КРДС, іншыя структуры аднагалосна заявілі пра падтрымку «пяцёркі» ў звязку з вызначэннем адзінага кандыдата і ўсе будуць працаваць як адзіная каманда на адзінага лідэра. 25-га ліпеня на паседжаньні «пяцёркі» будзе выпрацаваная адзіная платформа пераўтварэньняў – канстытуцыйных, эканамічных… У нас ёсць два варыянты вялікіх эканамічных праграмаў. Радуе і той факт, што паміж правымі і левымі няма вялікіх разы-

ходжанняў па пераўтварэннях».

Патэнцыйны кандыдат у прэзідэнты Міхаіл Марыніч выказаў такое меркаванне: «Выбар зроблены – гэта выбар «пяцёркі». Раз «пяцёрка» рашыла выбраць Ганчарыка – значыць, гэта правільна. У любым выпадку мы кансультацыі вялі і будзем весці. Часу яшчэ дастаткова, каб вызначыцца па стратэгічных і тактычных пытаньнях».

Адзін з сузаснавальнікаў Канфедэрацыі «За сацыяльныя перамены» Аляксандр Бухвостаў лічыць, што «гэта станоўчы момант у плане кансалідацыі апазіцыйных сілаў. Палітычныя партыі распрацоўвалі механізм вылучэння адзінага кандыдата самі, але «пяцёрка» знайшла ў сабе мужнасць самастойна вызначыць аднаго – у нашым выпадку гэта Ганчарык Уладзімір Іванавіч.

Гэта мы ўспрымаем як выдатную падзею. Апазіцыя мае шансы выйграць, асабліва калі ўлічыць, што ўлада не змагла схавацца ад адказнасці за знішчэнне палітычных апанентаў, перш за ўсё Віктара Ганчара. Тое, што «пяцёрка» рашылася вызначыць адзінага, гаворыць, што апазіцыя настроеная на перамогу».

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# Ці ёсць у Ганчарыка порах?

**У мінулую суботу «пяцёрка» прэтэндэнтаў на пасаду Прэзідэнта вылучыла так званага «адзінага кандыдата». Ім стаў 61-гадовы Уладзімір Ганчарык, лідар «афіцыйных прафсаюзаў». Вылучэнне Ганчарыка паказвае на некалькі асноўных момантаў у выбарчай кампаніі-2001.**

Па-першае, Уладзімір Ганчарык - тыповы прадстаўнік наменклатуры. Той самай, якая нас абдзірае, як ліпку, больш як дзесяць гадоў. Калі замаячыла магчымасць атрымаць рэальную перамогу над А.Лукашэнкам, наменклатура раптам прачнулася ад ступару і пачала вылучаць сваіх. Аднекуль павылазілі сініцыны, марынічы, казлоўскія ды іншыя калугіны. «Як жа, беларусы, будзеце без нас?»,- лямантуюць яны.

Уладзімір Ганчарык таксама адседжваўся ў цяню амаль увесь перыяд кіравання А.Лукашэнкі. Толькі другі год ён у фактычнай апазіцыі рэжыму. Ягоная барацьба з рэжымам праходзіць з пераменным посьпехам. У гэтым годзе Ганчарык заручыўся падтрымкай такога ўплывовага наменклатуршчыка, як былы міністр В.Лявонаў. Яго падтрымліваюць расейскія і еўрапейскія прафсаюзы. З усіх наменклатуршчыкаў Ул.Ганчарык, трэба прызнаць, выглядае ці не на самага прыстойнага.

Па-другое. Невыразнасць папярэдняй пазіцыі ў апошнія, скажам так, гадоў пяць робіць фігуру Ганчарыка вельмі слабой. Газета «Известия» піша, што Аляксандр Лукашэнка можа ўжо трыумфаваць. Аднак, Ганчарык прадпрыняў у ліпені моцны захад: прыцягнуў ўвагу сусветнай грамадзкасці да «палітычна матываваных тэрактаў» супраць Захаранкі, Ганчара, Красоўскага, Завадскага. Гэта дадасць яму іміджу рашучага палітыка, які пойдзе да канца. Акрамя таго, Ганчарык мае тое, чаго няма ні ў каго з прэтэндэнтаў -- прафсаюзныя структуры практычна на кожным прадпрыемстве ці калгасе. «Апазіцыя razlічвае на дапамогу прафсаюзных структураў», -- лічыць польская «Rzeczpospolita».

Трэцяе. На жаль, вылучэнне Ганчарыка абвастрыла супярэчнасці ў дэмакратычным лагеры. Многія актывісты выбарчага штаба Сямёна Домаша, напрыклад, як у горадзе Полацку, выходзяць з выбарчай гонкі. Ад дамовы пра «адзінага Ганчарыка» здалёк чуваць не вельмі прыемны пах здрады. Як тут не ўзгадаць словаў Зянона Пазьняка, маўляў, страшна далёкія кандыдаты ад інтарэсаў беларускага народа.

Да выбараў засталося 47 дзён. У Ганчарыка яшчэ ёсць шанец насамрэч узмацніць шэрагі сваіх прыхільнікаў не толькі з асяродку наменклатуры, але і простых людзей, адзіным багаццем якіх з'яўляецца выбарчы бюлетэнь.

Сяргей Самасей (П.)

---

# Пераліваньне крыві Свабоды

Упершыню Беларусь наведаў Камандуючы Ўзброеных Сілаў ЗША ў Эўропе й Вярхоўны Камандуючы Ўзброеных Сілаў NATA ў Эўропе генэрал Джозэф Ролстан. Амбасадар ЗША Майкл Козак, прыехаўшы ў Гомель, заклікаў правесьці вольныя й адкрытыя выбары. Афіцыйнай нагодай для візыту ў наш горад сталася ўрачыстае адкрыцьцё Цэнтру пераліваньня крыві ў абласной клініцы хуткай дапамогі.

Генэрал Джозэф Ролстан і капітан Ўзброеных Сілаў ЗША спадар Мітчал прыбылі ў Гомель на самалёце з Франкфурту. У аэрапорце іх сустракалі амбасадар ЗША ў Беларусі Майкл Козак, супрацоўнікі амэрыканскай амбасады, запрошаныя на цырымонію, а таксама былы міністар абароны Беларусі Павал Казлоўскі й цяперашні міністар Леанід Мальцаў.

Праект па стварэньні ў Гомелі Цэнтру пераліваньня крыві ў абласной бальніцы хуткай дапамогі зьдзейсьнены з фінансавай дапамогай камандаваньня Ўзброеных Сілаў ЗША ў Эўропе. На гэта пайшло прыкладна 420 тысяч даляраў, а зь мясцовага бюджэту ўкладзена каля 50 тысяч даляраў. Дзеля стварэньня сучаснага Цэнтру пераліваньня крыві для жыхароў Гомелю й Гомельскай вобласьці рэстаўраваны будынак ваеннага шпіталю, якому каля ста гадоў.

На цырымоніі ўрачыстага адкрыцьця Цэнтру выступіў амбасадар ЗША ў Беларусі Майкл Козак. Ён назваў красамоўную лічбу: 24 мільёны даляраў выдаткаваныя ЗША на праграму гуманітарнай дапамогі Беларусі, і гэта толькі за пэрыяд з 1996 да 2000 году. Амбасадар зазначыў таксама, што ЗША намераны аказваць неадкладную дапамогу ня толькі беларусам, якія маюць у гэтым патрэбу, але й тым нашым суайчыньнікам, хто імкнецца збудаваць свабоднае грамадзтва.

Спадар Козак падкрэсьліў з шкадаваньнем: адносіны між ЗША й Беларусьсю апошнім часам, пачынаючы ад 1996 году, нельга назваць нармальнымі, і гэта, на яго думку, адбываецца таму, што намаганьні падмагаць нашай краіне больш істотна й адрасна непасрэдна зьвязаны з выкананьнем Беларусьсю яе міжнародных абавязацельстваў па правах чалавека.

Гэтыя абавязацельствы прадугледжваюць арганізацыю свабоднага, празрыстага, справядлівага выбарчага працэсу. ЗША гатовы да нармалізацыі адносінаў зь Беларусьсю, калі беларускія ўлады будуць прытрымлівацца тых нормаў, якія нашая дзяржава абавязалася выконваць у межах АБСЭ. Гэта азначае, што ЗША былі б згодны прыняць вынікі выбараў прэзыдэнта, незалежна ад таго, хто стане пераможцам, у тым выпадку, калі б гэтыя выбары, пачынаючы ад сёньняшняга дня, праводзіліся ў адпаведнасьці з памянёнымі стандартамі. Амбасадар яшчэ й патлумачыў: урад Беларусі ведае ўва ўсіх дэталях пра тыя крокі, якія неабходна зрабіць, каб выбары былі прызнаныя за свабодныя, адкрытыя, справядлівыя й празрыстыя.

"Калі б, да прыкладу, беларускія ўлады пачалі выконваць абавязацельствы, - заявіў амбасадар - мы былі б гатовы пайсьці на шэраг падступаў па аднаўленьні кантактаў на вышэйшым узроўні й пашырэньні двохбаковай палітыкі інвэстыцыяў ды супрацоўніцтва ў ваеннай сфэры". Амбасадар Козак даў зразумець, што наўпростая дапамога людзям Беларусі, за прыклад якое сталася адкрыцьцё Цэнтру пераліваньня крыві ў Гомелі, будзе працягвацца, нязважна на адносіны між краінамі.

Свой выступ амбасадар ЗША спадар Майкл Козак завяршыў падзякай і выказваньнем павагі да нялёгкай працы й плённага супрацоўніцтва камандаваньня Ўзброеных Сілаў ЗША ў Эўропе з мэдыкамі й выканаўчай уладай Гомельскай вобласьці. Насамрэч, стварэньне Цэнтру пераліваньня крыві ёсьць выдатным прэцэдэнтам для супрацы такога кшталту.

Выступіўшы на адкрыцьці, амэрыканскі генэрал Джозэф Ролстан заўважыў, што, акрамя гэтага праекту, насёньня Ўзброеныя Сілы ЗША ў Эўропе аказваюць і іншую дапамогу Беларусі: ажыцьцёўленыя колькі задумаў - сумесны праект з Магілеўскім упраўленьнем аховы здароўя, праект падтрымкі дзіцячага дому-інтэрнату ў Брагіне й праект грамадзкае арганізацыі "Разуменьне". Далей, магчыма, мецьме працяг і праект рэстаўрацыі другога будынку бальніцы хуткай дапамогі ў Гомелі. Увосень гэта стане вядома.

Гэткага кшталту праграмы ў Беларусі генэрал Джозэф Ролстан абяцаў доўжыць - зь вялікаю спадзеваю на паляпшэньне жыцьця беларусаў і якасьць мэдычных паслугаў у краіне. А пакуль у памяшканьні гомельскай абласной бальніцы быў таксама адкрыты Цэнтар навучаньня доступу да інтэрнэту.

(Р.Р.)



# Жонкі рэпрэсаваных у пошуках праўды

25 ліпеня жонкі вядомых у Беларусі людзей, якія падвергліся палітычным рэпрэсіям альбо зніклі без вестак (Людміла Карпенка, Таццяна Клімава-Леановіч, Ірына Красоўская і Святлана Завадская), правялі прэс-канферэнцыю па выніках сваёй паездкі ў Маскву (7-9 ліпеня), Парыж (9-10 ліпеня) і Вашынгтон (17-19 ліпеня).

Як заявілі ўдзельніцы прэс-канферэнцыі, галоўнай мэтай паездкі было прыцягненне ўвагі шырокай міжнароднай грамадскасці да таго, што адбылося з іх блізкімі. «Адна справа, калі чатыры жанчыны спрабуюць штосьці даведацца, стукаючы ў розныя дзверы дзяржаўных установаў Беларусі, і зусім іншае – калі тыя ж самыя пытанні будуць зададзеныя ад імя міжнароднай супольнасці. Ад гэтых пытанняў ужо немагчыма будзе адмахнуцца», — сказала Ірына Красоўская.

Як адзначыла Людміла Карпенка, калі ў Беларусі іх галасы нячутныя, неабходна апеляваць да сусветнай грамадскасці. «Мы пачалі паездку менавіта з Масквы, – сказала яна, – таму што ўлады Расіі змогуць паўплываць на падзеі, якія адбываюцца ў Беларусі, а таксама праліць святло на знікненне і загадкавую гібель некаторых беларускіх палітыкаў. Затым мы наведалі Парыж, паколькі там праходзіла сесія Парламенцкай асамблеі АБСЕ. У Вашынгтоне мы былі прынятыя на высокім узроўні – як у Белым доме, так і ў Кангрэсе».

Паездка ўжо дала канкрэтныя вынікі. Аб праблеме зніклых людзей прынятая заява дзярждэпартамента ЗША. Амерыканскія палітыкі пабяцалі беларускім жанчынам садзейнічанне ў стварэнні міжнароднай камісіі па расследаванні кожнага асобнага выпадку знікнення ці гібелі беларускіх палітыкаў. Сенатары намецілі планы абмеркавання з прэзідэнтам Джорджам Бушам тэмы правоў чалавека ў Беларусі і аказання ўплыву на Расію па гэтым пытанні. Кангрэсмен Крыстафер Сміт выказаў жаданне прыехаць на Беларусь падчас выбараў прэзідэнта.

~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~

## У НЯМЕЧЧЫНЕ НЕ СУМНЯВАЮЦЦА, ШТО Ў БЕЛАРУСІ ДЗЕЙНІЧАЕ “ЭСКАДРОН СЬМЕРЦІ”

*Адная з самых уплывовых нямецкіх газэтаў Frankfurter Allgemeine Zeitung надрукавала вялікі артыкул, прысьвечаны зьнікненьню людзей у Беларусі. Галоўная высноваартыкулу: сёньня амаль ніводзін аб'ектыўны палітык ня мае сумневу, што ў Беларусі быў створаны ўладамі і дзейнічаў да самага апошняга часу “эскадрон сьмерці”. На яго рахунку да 30 забітых праціўнікаў рэжыму Лукашэнкі. Сярод іх такія вядомыя палітыкі як Юры Захаранка, Віктар Ганчар, бізнэсовец Анатоль Красоўскі, тэлеапэратар Зьміцер Завадскі.*

У артыкуле таксама згадваецца факт, што патэнцыйны галоўны кандыдат аб'яднанай беларускай апазыцыі на цяперашніх прэзыдэнцкіх выбарах Генадзь Карпенка не памёр ад інсульту, а быў атручаны ў нявысьветленых дасюль абставінах. Таксама згадваецца інфармацыя былога сьледчага пракуратуры аб тым, што падчас вобыску ў кватэры аднаго з кіраўнікоў “эскадрону



Дз. Паўлючэнка, тыпічны НКВДзіст…

сьмерці” камандзіра САХРу Паўлючэнкі былі знойдзеныя 16 відэастужак з запісамі катаваньняў і забойства ахвяраў “эскадрону”, а таксама сотні тысячаў даляраў. Пазьней гэтыя стужкі ў невысьветленых абставінах зьніклі.

*Frankfurter Allgemeine Zeitung* лічыць, што перасьлед праціўнікаў рэжыму Аляксандра Лукашэнкі ў Беларусі – гэта пасьлядоўная і жорсткая сыстэма запалохваньня і пры неабходнасьці фізычнага зьнішчэньня ўсіх тых, хто рэальна пагражае беларускаму аўтакратычнаму рэжыму.
~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~

Віталь **Луба**

# Форум беларусаў сьвету

5-6 ліпеня г.г. у Мінску адбыўся III З'езд беларусаў свету, арганізаваны Міжнародным грамадскім аб'яднаннем „Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына»". Рыхтаваўся ён, у адрозненні ад папярэдніх з'ездаў, без дапамогі ўлад. Амаль да апошніх дзён з-за непаслядоўнасці сталічных улад невядомым было месца яго правядзення. Толькі 29 чэрвеня вечарам канчаткова высветлілася, што з'езд адбудзецца ў зале Дома літаратараў. А месяц раней на старонках „Голасу Радзімы" намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Беларусі Іван Яновіч будучы з'езд назваў „статутным справаздачным мерапрыемствам гэтай грамадскай арганізацыі", якое „можа пераўтаварыцца ў палітычнае шоу". Адзначыў ён яшчэ, што „рыхтуемы з'езд (...) выглядае як палітычная акцыя апазіцыйнага да ўладаў Беларусі характару", і арганізацыям, якія пашлюць дэлегатаў на з'езд „Бацькаўшчыны" рэкамендаваў „улічваць гэтыя абставіны".

Насуперак намаганням афіцыйных чыннікаў, якія прапанавалі перанесці з'езд на канец або на пачатак наступнага года, III З'езд беларусаў свету ўсё ж такі адбыўся. Удзельнічалі ў ім 224 дэлегаты з краін СНД, Прыбалтыкі, Заходняй Еўропы і ЗША. З Польшчы ў працах з'езда ўдзельнічалі дваццаць два дэлегаты. Беларускае грамадска-культурнае таварыства, улічыўшы афіцыйную пазіцыю ўрада, сваіх прадстаўнікоў не паслала. У ліку 149 гасцей з'езда былі, між іншым, пасол ЗША Майкл Козак, віцэ-міністр культуры Валерый Гедройц і згаданы ўжо Іван Яновіч.

У дакладах, якія былі зачытаны ў першы дзень з'езда, выказвалася занепакоенасць станам нацыянальнай свядомасці беларусаў, становішчам беларускай мовы і культуры. Балючай справай з'яўляецца таксама дэмаграфічнае становішча Рэспублікі Беларусь, якая на пачатку III тысячагоддзя апынулася на парозе духоўнага і фізічнага знішчэння. Некалькі гадоў запар на Беларусі смяротнасць перавышае нараджальнасць і ўпершыню за многія гады колькасць насельніцтва ў краіне налічвае менш за 10 мільёнаў. Вялікую трывогу выклікае таксама стагнацыя ў эканоміцы, пасьлядоўнасці чарнобыльскай катастрофы і нарастаючыя працэсы эміграцыі.

У дыскусіі моцна падкрэслівалася важнасць гістарычнай айчыны, яе духовага і эканамічнага стану для дыяспары. Старшыня Беларускага саюза ў Польшчы Яўген Вапа адзначыў, што без вялікай, моцнай духовай бацькаўшчыны нацыянальныя меншасці хутчэй асімілююцца, а без веры ў яе магутнасць становяцца слабейшымі. Але кіраўніцтва сённяшняй Беларусі, на што ўказвалі чарговыя прамоўцы, вядзе антынацыянальную палітыку, доказам чаму з'яўляецца нераўнапраўнае становішча мовы тытульнай нацыі і яе культуры, а таксама палітычны курс на аб'яднанне Беларусі з Расіяй. Для ажыццяўлення гэтай мэты прыцягваюцца беларускія суполкі ў Расіі. Выявілася гэта ў выступленнях маскоўскіх дэлегатаў Францішка Каўрыгі — старшыні Савета Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі „Беларусы Масквы" і Генадзя Леха — старшыні Таварыства беларускай культуры імя Францыска Скарыны. Аказваецца, што апрача 6 беларускіх суполак, якія ўзніклі ў дзевяностых гадах, апошнім часам паўсталі 42 суполкі, згуртаваныя ў федэральных аўтаноміях, якія падтрымоўваюць аб'яднанне Беларусі і Расіі. Новастворанымі арганізацыямі цікавіцца беларускае пасольства ў Маскве і аказвае ім падтрымку. Такім чынам у Расіі, як адзначыў Генадзь Лех, стварылася шчырая і няшчырая дыяспара. Частка дэлегатаў, галоўным чынам з Расіі і Украіны, пакарысталася запрашэннем урада і прыняла ўдзел у спатканні ў Савеце Міністраў.

Аб непазбежным паглыбленні расколу дыяспары ва ўмовах існуючага рэжыму сведчыць таксама пасланне прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі суайчыннікам далёкага і блізкага замежжа, зачытанае Іванам Яновічам на другі дзень з'езда (некаторыя палічылі гэта знакам непашаны). У ім аптымістычна гаварылася пра дасягненні Рэспублікі Беларусь на шляху будаўніцтва гарманічнага і сацыяльна справядлівага грамадства і пра перакананасць Лукашэнкі ў тым, што „прыспеў час падняць супрацоўніцтва нашай радзімы з беларусамі і выхадцамі з Беларусі іншых нацыянальнасцей на якасна новы ўзровень". А для гэтага напэўна паслужыць планаваны ўладамі на лістапад гэтага года Кангрэс беларусаў свету.

III З'езд прыняў праграму „Замежная беларуская супольнасць у XXI стагоддзі", дэкларацыю „Беларуская дыяспара і свет", заявы „Аб падтрымцы МГА ЗБС „Бацькаўшчына" і кансалідацыі беларускай дыяспары" і „Аб падтрымцы беларускай мовы" (дэлегаты звярнуліся да ўрада з патрабаваннем вярнуць беларускай мове статус адзінай афіцыйнай дзяржаўнай мовы).

З'езд адкрыўся і закончыўся гімнам — старажытнай мелодыяй з „Полацкага сшытка" ад 1640 года, апрацаванай для сімфанічнага аркестра кампазітарам Вячаславам Кузняцовым. Гімн будзе музычным сімвалам ЗБС „Бацькаўшчына". На словы да яго будзе аб'яўлены конкурс.

Насуперак меркаванням дзяржаўных чыноўнікаў, з'езд у палітычнае шоу неператварыўся. Наадварот, быў ён, як гаварылі ўдзельнікі папярэдняга з'езда, больш канструктыўны, а прамоўцы пазбягалі палітычных тэм, як хаця б надыходзячых прэзідэнцкіх выбараў. Нягледзячы на палітычную стрыманасць апошняга форуму беларусаў свету, цяжка спадзявацца на падтрымку ўлад у выкананні прынятай праграмы, дзе многія прапановы адрасуюцца паасобным міністэрствам і дзяржаўным камітэтам. Для гэтага патрэбна палітычная воля, а такой, як паказала падрыхтоўка і ход з'езда, няма.

## ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ СЬВЕТУ “БАЦЬКАЎШЧЫНА”

### Паведамляе:

5-6 ліпеня 2001 г. у Менску адбыўся Трэйці зьезд беларусаў сьвету. У зьезьдзе бралі ўдзел: 139 дэлегатаў і 35 гасьцей з 18 краін сьвету (ЗША, Канады, Бельгіі, Аўстраліі, Англіі, Польшчы, Балтыйскіх краін, Расеі, Украіны, Казахстану, Малдовы, Узбэкістану і інш.), прадстаўнікі 72 арганізацыяў беларускай дыяспары; 144 дэлегаты і 157 гасьцей з Беларусі; прадстаўнікі дзяржаўных структур — Міністэрства адукацыі, Міністэрства культуры, Дзяржкамітэту па справах рэлігіяў і нацыянальнасьцяў, Мінгарвыканкаму, Міністэрства юстыцыі; пасол ЗША Майкал Козак і прадстаўнікі амбасадаў Украіны і Арменіі: прадстаўнікі міжнародных арганізацыяў — АБСЕ і ААН; працу Зьезду асьвятлялі 45 інфармацыйных агенцтваў.

Дэлегатамі і гасьцямі Зьезду былі людзі розных сацыяльных станаў, прафэсіяў, канфэсіяў, палітычных плыняў і грамадзкіх арганізацыяў з Беларусі і замежжа.

На Зьездзе працавалі розныя сэкцыі...

Зьезд прыняў наступныя выніковыя дакуманты:

1. Пастанову аб падтрымцы Акту незалежнасьці, прынятага Ўсебеларускім зьездам 29 ліпеня 2000 г. у Менску.
2. Праграму “Замежная беларуская супольнасьць у 21-м стагодзьдзі (асноўныя дзеяньні па кансалідацыі і дапамозе беларускай дыяспары да 2005 г.)”.
3. Дэкларацыю “Наш шлях: вартасьці і мэты”.
4. Дэкларацыю “Беларуская дыяспара і сьвет”.
5. Рэзалюцыю аб дзейнасьці МГА ЗБС “Бацькаўшчына”.
6. Заяву аб беларускай мове.
7. Рэзалюцыю “Аб падтрымцы Міжнароднага грамадзкага аб'яднаньня “Згуртаваньне беларусаў сьвету “Бацькаўшчына” і кансалідацыі беларускай дыяспары”.

Нягледзячы на парады беларускіх амбасадаў у краінах былога СССР і рэкамэндацыі Дзяржкамітэту па справах рэлігіяў і нацыянальнасьцяў ня ехаць на зьезд, “Бацькаўшчына” сабрала пад сваім дахам 2/3 вылучаных дэлегатаў. Дух канструктывізму, жаданьне аб'яднацца дзеля вырашэньня праблемаў нацыянальнага жыцьця перамаглі.

Адны з асноўных задач, якія ставіць перад Беларускай дзяржавай яе дыяспара і якія закладзены ў прынятай на зьезьдзе Праграме, — стварэньне Дзяржкамітэту па дыяспары, прыняцьце закону “Аб беларускай дыяспары”, абарона правоў беларускай нацыянальнай меншасьці ў краінах яе пражываньня праз заключэньне адпаведных міждзяржаўных пагадненьняў.

На зьезьдзе адбылася прэзэнтацыя кнігі “Гістарычны шлях беларускай нацыі і дзяржаўнасьці”, зробленай па заказе “Бацькаўшчыны”. Матэрыялы для кнігі былі падрыхтаваныя Беларускім нацыянальным грамадзкім арганізацыйным камітэтам. У кнізе падсумаваны гістарычны шлях беларускага народу, акрэсьленыя галоўныя здабыткі беларускай нацыі.

У выніку працы зьезду быў закладзены трывалы падмурак для ўмацаваньня шчыльных сувязяў паміж “Бацькаўшчынай” як галоўнай арганізацыяй у мэтраполіі і беларускімі суполкамі ў замежжы, былі ўдакладненыя перспэктыўныя накірункі шматузроўневага ўзаемадзеяньня беларусаў на Радзіме і ў замежжы дзеля супольнай карысьці, прапанаваны мэханізмы вырашэньня актуальных праблемаў нацыянальнага жыцьця ў галіне навукі, эканомікі, адукацыі, культуры, падсумаваныя вынікі працы за міжзьездаўскі пэрыяд, перавыбраныя кіруючыя органы арганізацыі.

Прэзыдэнтам МГА “Згуртаваньне беларусаў сьвету “Бацькаўшчына” абраны прафэсар **Анатоль Грыцкевіч**, старшынёй Рады — **Алена Макоўская.**

+++++++++++++++++++++++++++++++

## У Эслінген занепакоеныя...

Афіцыйныя стасункі паміж гарадамі-пабрацімамі Маладзечнам і нямецкім Эслінгенам-на-Некары працяглы час «замарожаныя». Нямецкі бок асноўнай прычынай называе палітычнае становішча ў Беларусі, зьнікненне Віктара Ганчара (у Эслінгене летась яму прысудзілі прэмію Тэадора Хекера «За палітычную мужнасьць і сумленнасьць»). Днямі мэр Эслінгена Юрген Цыгер накіраваў ліст прэзідэнту Расіі У. Пуціну. Там утрымліваецца просьба «скарыстаць палітычны ўплыў, які існуе ў рамках саюза з Беларуссю», з тым, каб былі расследаваныя справы аб зьнікненні беларускіх палітыкаў, у тым ліку, Віктара Ганчара. Жонка былога першага намесніка старшыні Маладзечанскага гарвыканкома Зінаіда Ганчар раней звярталася ўжо да Пуціна. Немцы даслалі і ёй копію свайго ліста.

*Аддзел інфармацыі «РГ»*

## ЗВАРОТ
### да беларускага народу і сусьветнай супольнасьці

Шаноўныя суайчыньнікі!

Мы звяртаемся да Вас, а таксама да сусветнай супольнасьці ў адзін з самых драматычных момантаў нашай гісторыі.

Кіраўнічы рэжым дайшоў у сваіх дзеяннях да найвышэйшага цынізму. Рэспубліка ахоплена страхам і адчаем. Нагода – бясследныя зьнікненні вядомых сыноў Беларусі: Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Дзмітрыя Завадзкага. Грамадства ўзрушана публікацыяй матэрыялаў аб існаванні «эскадрона смерці», створанага дзяржаўнымі спецслужбамі для расправы з палітычна няўгоднымі асобамі. Дакументы сьведчаць, што

да гэтых жахлівых злачынстваў меў дачыненне былы сакратар Рады бяспекі, а цяперашні генеральны пракурор В. Шэйман і былы міністр унутраных справаў, а цяперашні намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Ю. Сівакоў.

Дакументы абнародаваны, даведзены да ведама А. Лукашэнкі. Грамадства чакае адказу. Але маўчыць А. Лукашэнка, маўчыць урад, маўчаць дзяржаўныя СМІ. Краіна ў трывозе і неразуменні.

Мы, прадстаўнікі шырокай грамадскасці, палітычных партый, ПАТРАБУЕМ:

— неадкладнага стварэння прэм'ер-міністрам Рэспублікі Беларусь У. Ярмошыным незалежнага, кампетэнтнага органа з удзелам міжнародных экспертаў для праверкі фактаў, выкладзеных у дакументах, што сведчаць пра дачыненне найвышэйшых дзяржаўных асоб да знікнення людзей;

— на час расследавання адхілення ад займаных пасадаў В.Шэймана, Ю.Сівакова, Дз.Паўлючэнкі і іншых асобаў, якія маюць нерасрэдныя дачыненьні да стварэння і арганізацыі дзеяняў так званага «эскадрона смерці»;

— тэрміновага і дэталёвага разгляду Цэнтрвыбаркамам пытання аб ануляванні рэгістрацыі кандыдата на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкі, які не зрабіў своечасовых захадаў дзеля расследавання злачынстваў супраць грамадзян сваёй краіны і тым самым груба парушыў свой канстытуцыйны абавязак.

Пад зваротам пастаўлены 59 подпісаў ведамых беларусаў.

# Купальская ноч у Белавежы

Свята пачалося песняй „Купалінка" ў выкананні „Прымакоў", якія пры нагодзе зрабілі рэкламу сваёй новай чацвёртай ужо аўдыёкасеты. Потым выступалі гурты — „Рассыпаваны Гарадок", „Васілёчкі", „Ас", „Цаглінкі", „Маланка", „Хлопцы-рыбалоўцы", „Рэчанька", „Арэшкі". З-за мяжы ў Белавежу прыехалі „Грымата" са Слоніма, „Вербніца" з Пружан і танцавальны гурт „Гродзенскія карункі" з Гродна.

Вялікае ўражанне ў публікі выклікала выступленне Алы Каменскай з сынам Давідам, якія заахвоцілі публіку да спявання. Паяўленне на сцэне гурту „Ас", а потым „Прымакоў" давяло да таго, што слухачы пачалі не толькі спяваць, але і танцаваць. Старыя, добравядомыя беларускія песні, называныя часам свойскімі, у новай апрацоўцы падкупілі публіку. Нягледзячы на паходжанне ці веравызнанне ўдзельнікі Купалля даказалі, што культура і песня пераадольваюць усе бар'еры і аб'ядноўваюць людзей.

Сёлетняе свята прыцягнула ў Белавежу каля 7 тысяч аматараў народнага гуляння. Большасць публікі складалі маладыя людзі, якія нават пяшком дабіраліся на Купалле. З вянкамі на галовах, з півам у руках гулялі разам са старэйшымі ўдзельнікамі.

Купалле закончылася апоўначы пусканнем вянкоў на ваду (ніжні здымак). Цёплы вечар як і ахвота паказаць сваю смеласць схілілі маладых хлопцаў кідацца ў ваду і лавіць вянкі. На жаль, выплятаюць іх старэйшыя замужнія жанчыны, а не дзяўчаты.

Купальская ноч мела не толькі культурны, але і рэкламны ды выбарчы характар. Публіка атрымала поўную інфармацыю аб партыйнай прыналежнасці гасцей і аб дзейнасці спонсараў. У гэтым годзе арганізатары атрымалі высокую ацэнку публікі. На пытанне: „Як справіліся арганізатары?" людзі адказвалі адным словам: „Цудоўна!"

# Дванаццатае «Басовішча» не падкачала

**20-21 ліпеня у Гарадку пад Беластокам адбыўся фэст беларускай музыкі «Басовішча». Дванаццатае «Басовішча» не падкачала. Каля пяці тысячаў фанаў беларускіх рок-гуртоў у чарговы раз засталіся задаволенымі. Адзінае, сёлетняе Басовішча азмрочылася няшчасным выпадкам. Па дарозе на фэст у аўтамабільнай катастрофе загінула два чалавекі з Бельску Падляскага.**

Ну вось, нарэшце дабралася! Канцэрт ужо пачаўся - чуваць па ўсім лесе. Выбіраю сабе сцяжынку і ныраю у гушчар. Іду на гук, але здаецца, усе лясныя сцежкі ад Гарадка вядуць да «Басовішча».

«Басовішча» неверагодна папулярнае сярод палякаў. Іх на фэсце нават болей, чым беларусаў. Натуральна, як гаворыць Лявон Вольскі, «Басовішча» зараз - гэта раскручаны еўрапейскі фэст». Дарэчы, акрамя беларускай, польскай і рускай моваў я чула там і ангельскую.

У конкурсе на лепшую эмблему сёлетняга фэсту перамог Аляксандр Максімюк, сакратар рэдакцыі беластоцкай «Нівы» (нагадаем, узнагарода была 1000 злотых). На ёй выяўлены легендарны гітарыст «Крамы» Сяржук Труха-новіч. Аднак, прыхільнікі «NRM» ўпэўненыя, што гэта - гітарыст іх улюбёнага гурта Піт Паўлаў.

Як заўсёды першы дзень конкурсны. Прызавых месцаў чатыры. Гомельскі гурт «Бан Жвірба» атрымаў прыз ад Беларускай Асацыяцыі Студэнтаў. Ад войта Гарадоцкай гміны прыз узяў гурт «Праект 2001» з Гарадка, Бельска, Беластока і Гайнаўкі. Беластоцкая студыя гуказапісу «Hertz» выбрала гурт «Impett» з Менска. На ёй менчукі будуць запісваць свой уласны альбом. І яшчэ адно месца ад Беларускага Саюза ў Рэчы Паспалітай узяў гурт «0-85» з Беластока. Акрамя іх, у конкурснай праграме выпрабоўвалі ўдачу гурты «БН», «Голая Манашка», «Сходы», «Цмокі», «Зьнічь», «Galina Bezu», «Happy Face», «Aquamorta», «c.r.a.k.», «Tabolich & Splenetic».

Пасля гуртоў-канкурсантаў выступілі лаўраты мінулага «Басовішча» - «Сонца Мао» і «The Dvery», а таксама Аляксандр Памідораў, які вёў рэй на сёлетнім «Басовішчы», ангельскі гурт «Epicentre» і таямнічы «Zet», музыкі якога хаваюць свае твары пад маскамі. «Zet» прэзентаваў свой альбом «З Новым годам!», таму і выйшаў на сцэну з елачкай і ў касцюме Дзеда Мароза. Усе ведаюць, што пад маскамі «Zeta» - энэрэмаўцы, але яны ўпарта адмаўляюць гэта і абзываюць зэтаўцаў «маразма-тыкамі», праўда, вірту-озьнымі. На што тыя, ў сваю чаргу, празвалі «NRM» «старпёрамі». Так ці інакш, але твары «Zet» пакуль адкрываць не збіраецца. Магчыма, гурт зменіць маскі па меры таго, як будзе мяняцца афарбоўка яго музыкі.

На фэст былі запрошаныя беларускі амбасадар у Польшчы і беларускі консул з Беластока. Аднак, ніхто з іх не прыехаў.

- Нічога дзіўнага, - гаворыць старшыня БАСу Андрэй Карчэўскі, - мы хацелі паказаць ім сапраўдную Беларусь. Яны спалохаліся і не паехалі.

На другі дзень выступілі пераможцы конкурсу і вядомыя гурты. - Цішэй, яшчэ цішэй, зараз зусім ціха - і на поўныя грудзі! - кіруе сваёй сотнягалоснай падпеўкай кіраўнік «Крыві» Тодар Вайцюшкевіч.

Класна «патанчылі» пад «Палац». Абалдзенна адыграла «Крама». Выканала толькі пару новых песень. Але старыя, колькі раз граныя на Басовішчы, «Стэфка», «Камэндант» і «Слуцкая брама» запалілі слухачоў на ўсе сто. З цалкам новай праграмай «Люстэрка» выступіў «Уліс». Радыё Рацыя нават узнагародзіла гурт за вернасць «Басовішчу» адмысловым прызам.

Традыцыя «Басовішча» - запрашаць вядомы польскі гурт. Сёлета гэта быў «Pidzama Porno».

Але беларусы чакалі «NRM».

- А зараз найлюбі-мейшы ў нас на Падляшшы гурт - NRM! - прагрымеў у мікрафон Андрэй Карчэўскі.

Пад сцэнай адразу змяніўся кантынгент. З бел-чырвона-белымі сцягамі і прасціradлами «NRM» павыпаўзалі з закуткоў фаны. Энэрэмаўцы згралі некалькі сваіх старых хітоў і сышлі. Маўляў, ужо вельмі позна, ўсім хочацца спаць. Але інструменты не адключалі - і фаны не падманулі іх чаканняў. «Энэрэм! Энэрэм!» - скандуе «Басовішча». Лявон Вольскі ажно чатыры разы спявае ну «самую апошнюю песню».

Не забываліся на «Басовішчы» і на выбары. «Выбірайце не старога і дурнога параноіка, а...» - заклікаў Тодар Вайцюшкевіч. «Mamy prawo nie glosowac na chujew!» - падтрымаў беларусаў лідар «Pidzamy Porno». Але самым сімва-лічным стаўся для мяне выступ ангельцаў. Кашулькі з Пагоняй на музыках гурта «Meyze» і бел-чырвона-белы сцяг у руках яго саліста моцна кранулі маё патрыятычнае сэрца.

«Жыве Беларусь! Жыве Беларусь!» - ціха пачынае прагаворваць у мікрафон саліст «Meyze». Але ягоны заклік ужо няма каму падтрымаць. Беларусы паслухалі «NRM» і, задаволеныя, расцягнуліся спаць па намётах. Запланаваны напачатку трэці фальклорны дзень фэсту адмянілі з-за недахопу фінанасавання. А вось распаўсюджаная некаторымі СМІ інфармацыя пра тое, што беларускія «рок-зубры» гралі без ганарару – няпраўда.

– Усім заплацілі, як заўсёды,- сцвярджае адзін з галоўных арганізатараў «Басовішча» Андрэй Карчэўскі.

Алеся Сідлярэвіч (Пагоня)

***********************************************

# Хачу даведацца...

Мне трапілася расейская газета "Аргументы і факты" № 29 за ліпень 2001г. з пытаннем пра ганарары артыстаў на "фестывалі "Славянскі базар" у Віцебску. Чытач з Беларусі пытаецца чаму ганарары беларускіх артыстаў нашмат ніжэйшыя, чым ганарары расейскіх выканаўцаў. Чытачу адказаў 1-ы намеснік міністра культуры Беларусі Уладзімер Рылатка растлумачыўшы што "ніякай дыскрымінацыі тут няма, бо ганарар артыста залежыць ад рынкавага попыту на гэтага артыста. Але у нас атрымліваецца крыху зніжаць цэны на расейскіх артыстаў, за кошт таго, што акрамя канцэртаў на "Славянскім базары" мы арганізуем ім туры па Беларусі".

Пры гэтым "АІФ" дадала, што самы звычайны канцэрт расейскага спевака Валерыя Леонцьева каштуе 10000-12000 дал.ЗША, тады, як знакаміты беларускі артыст, кіраўнік групы "Сябры" Анатоль Ярмоленка за ўдзел у фестывалі ў мінулым годзе атрымаў толькі 300 дал.ЗША.

Дык за што ж мы так ня цэнім сваіх, беларускіх? Моладзь, напэўна ж, атрымлівае яшчэ меньш. Іх не ведаюць? Дык можа па Беларусі лепш арганізаваць туры, канцэрты для сваіх, каб ведалі. Ды і ў бліжэйшым замежжы можна было б наладзіць гастролі для беларускіх спевакоў і групаў.

Навошта Міністэрству культуры Беларусі наладжваць рэкламу і папулярызацыю толькі расейскіх спевакоў? А сваіх артыстаў ад людзей хаваем: у тым жа Віцебску, Гродне ды і Менску ні ў водным шапіку не знайсці беларускіх аудыезапісаў. Гандляры шапікаў і іх пакупнікі беларускіх выканаўцаў не ведаюць, не чулі.

На маю думку гэта неправільна. Можа я што не разумею, можа ў Міністэрства культуры РБ існуюць нейкія складаныя пэспектыўныя пляны наконт беларускай культуры, але пакуль што бачна, што ў Беларусі дбаюць толькі аб рускай культуры, хоць аб ёй без беларускага Міністэрства культуры ёсць каму паклапаціцца.

І ўвогуле ці не знайсці для тых 13млн. 100тыс.р.рублёў, што паводле " АІФ", Беларусь укладае ў "Славянскі базар" (Расія - 19млн.650 тыс.руб) лепшага прымянення ў беларускай культуры?

Добра было б, каб выказаліся работнікі культуры і чытачы. Толькі гаворка павінна ісці аб рэальным стане рэчаў і рэальных задачах, не папяровых. На паперы ў нас усё добра. Такое ўражанне, што адказныя работнікі па вуліцах ніколі пешкі ня ходзяць і ў крамы не зазіраюць...

З павагай,

Таіса Мішчанка,

адвакат Масква



# Дэсантнік пахаваны пад Івацэвічамі

Рыгор Зыбайла нарадзіўся 15 верасьня 1913 году на Івацэвіччыне. Па адукацыі ён быў лясным інжынерам. У верасьні 1939 г. Зыбайла ўдзельнічаў у нямецка-польскай вайне, трапіў у нямецкі палон. Пасьля вызваленьня, ён увайшоў у Першы штурмовы зьвяз, які быў скінуты на Беларусь перад нападам Нямеччыны на СССР.

Рыгор Зыбайла ўвосень 1941-га быў прызначаны старшынёй Слонімскага акруговага камітэту Беларускай Народнай Самапомачы (БНС). Адначасова ён увайшоў у падпольную антыфашыстоўскую й антыкамуністычную Беларускую Незалежніцкую Партыю (БНП), быў сябрам Цэнтральнага Камітэту партыі. Неаднаразова Зыбайла бараніў перад нямецкімі акупацыйнымі ўладамі мірнае насельніцтва, за што й быў высланы немцамі на пасаду кіраўніка раёну ў Дзярэчын.

Зь лета 1943-га Зыбайла выконваў абавязкі намесьніка старшыні БНС Юрыя Сабалеўскага ў Менску. У сакавіка 1944 году ён зноў апрануў вайсковы мундзір, стаўшы начальнікам Беларускай Краёвай Абароны ў Глыбоцкай акрузе, меў рангу лейтэнанта. Актыўна ствараў беларускія вайсковыя аддзелы.

Летам 1944-га Рыгор Зыбайла, разам з іншымі беларускімі вайскоўцамі, адыйшоў на Захад. Там ён быў надлейтэнантам у беларускай дывізіі Зіглінга. Разам з батальёнам гэтай дывізіі напрыканцы 1944 г. перайшоў на бок французскіх партызанаў. Пасьля беларускія жаўнеры апынуліся ў амэрыканскім лягеры для ваеннапалонных. Зыбайла й іншыя пайшлі дабраахвотнікамі ў польскую армію генэрала Андэрса.

Доўгі час панавала думка, што Зыбайла быў расстраляны польскай контрразьведкай у Марсэлі. Аднак гэта аказалася няпраўдай. Р. Зыбайла нейкім чынам у пасьляваенны час трапіў у рукі чэкістаў. Па адной вэрсіі, быў выкрадзены чэкістамі й прывезены з-за "жалезнай заслоны" у СССР. Па іншай, сам прабіраўся на Бацькаўшчыну праз Чэхаславаччыну, каб змагацца з акупантамі. На допыце ў МГБ ён сказаў: "Я сваёй Беларусі ніколі не здраджваў!". Зыбайлу засудзілі на доўгія гады канцлягераў.

Па вяртаньні на Бацькаўшчыну, Зыбайла жыў у вёсцы Яглевічы, ажаніўся, выгадаваў сына. Падтрымліваў кантакты зь некаторымі сваімі баявымі сябрамі. Памёр беларускі патрыёт 15 лістапада 1987 г. і пахаваны ён у вёсцы Яглевічы недалёка ад Івацэвіч.

############################################

**Прадстаўнікі Каардынацыйнай рады** дэмакратычных сілаў і руху "За новую Беларусь" распаўсюдзілі зварот да беларускага народу й міжнароднай супольнасьці, у якім заклікалі адхіленьня ад пасадаў Аляксандра Лукашэнкі, Віктара Шэймана, Юрыя Сівакова, якія могуць мець дачыненьне да зьнікненьня людзей і існаваньня "эскадрону сьмерці". Акрамя таго, апазыцыйныя палітыкі запатрабавалі ад прэм'ера Беларусі Ўладзімера Ярмошына стварыць адмысловы орган для расьсьледаваньня справаў зьніклых людзей. Пад зваротам стаяць подпісы 55 палітыкаў і грамадзкіх дзеячаў краіны.

*********************************************

## НОВЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ВЫДАНЬНІ.

Мы атрымалі наступныя выданьні:

1. **Czasopis.** Беларускі грамадзка-культурны месячнік у Польшчы. № 7-8. Беласток, 2001. 72 бач.
2. **Мікалай Улашчык.** ***Выбранае,*** Беларускі кнігазбор, Менск, 2001. 606 бач.
3. **Гісторыя Беларусі ў дзьвюх частках.** Частка першая. Накірунак прасавецкі, Менск, 2000. 416 бач.
4. **Гісторыя Беларусі ў 6-ці тамах.** Том першы. Старажытная Беларусь. Праца больш нацыянальна-незалежніцкага накірунку. Менск, 2000. 350 бач.

# ...НАМ ЗАСТАЛАСЯ СПАДЧЫНА...

Паводле вынікаў перапісу насельніцтва 1999 года 73,7 % грамадзян Беларусі прызнаюць беларускую мову роднай... *З дакументаў.*

"Нацыянальная тэма і шляхі кансалідацыі грамадства" - гэта тэма апошняй канферэнцыі, якую 25 лютага гэтага года ладзілі грамадскія аб'яднанні "Цэнтр па правах чалавека" і Таварыства беларускай мовы. З'ехаўшыся з усёй Беларусі, лідэры ТБМ у мініяцюры ўвасобілі ўсю нашу краіну. У пачатку XXI стагоддзя самымі свядомымі беларусамі была зроблена спроба ацаніць наша сёння, азірнуўшыся на той шлях Беларусі і яе народа, які вымяраецца эрамі, стагоддзямі, эпохамі, гадамі, днямі і... імгненнямі. Няпросты быў гэты шлях…

Гісторыя нашага народа ўяўляе сабой, як было заўважана выступоўцамі, шэраг падзенняў і ўзлётаў. Назіраецца дзіўная заканамернасць, што кожнае стагоддзе пачыналася з трагеды для нашага краю: XI стагоддзе было азмрочана смерцю Рагнеды і яе сына Ізяслава, у пачатку XII стагоддзя не стала слаўтага Усяслава Чарадзея, у XIII стагоддзі крыжакі, адбудаваўшы Рыгу, адрэзалі Полацк ад Балтыйскага мора, XIУ стагоддзе пачалося з нападаў крыжакоў на нашу зямлю. Пачатак ХУ стагоддзя быў азмрочаны паражэннем Вітаўта на рацэ Ворскле, ХУІ стагоддзе пачалося з нападу маскоўскіх войскаў на Смаленскую, Аршанскую, Мсціслаўскую, Віцебскую, Полацкую ды іншыя нашыя землі. У пачатку ХУІІ стагоддзя Беларусь напаткаў страшэнны голад, а ў ХУІІІ стагоддзі пачалася Паўночная вайна (1700-1721), якая цягнулася больш дваццаці гадоў. У першай палове XIX стагоддзя Беларусь страціла нават сваю назву, а XX стагоддзе прынесла пажар 1 сусветнай вайны.

Можна толькі здзіўляцца, як у такіх умовах лінія жыцця і развіцця нашага народа не парвалася канчаткова, не згарэла ў пажарах спусташальных войнаў, не спыніла сваё наступальнае развіццё... Наадварот, кожны такі спад прадугледжваў чарговы ўздым развіцця і станаўлення беларускай нацыі, фармаванне новай нацыянальнай ідэі, якая кансалідавала народ. Такія працэсы ва ўсе часы прынята было называць "Адраджэннем". І кожны такі працэс заўсёды меў свае асаблівасці, бо і кожнае стагоддзе несла нешта сваё. Так да прыкладу, у пачатку XIX стагоддзя справу адраджэння распачалі вучоныя, прафесары Віленскага універсітэта на чале з Міхайлам Баброўскім і Ігнатам Даніловічам. У свой час яны марылі пра аднаўленне незалежнага Вялікага княства Літоўскага, аб вяртанні дзяржаўнага статусу беларускай мове і пра унію як нацыянальную рэлігію. Гэта і было нараджэннем нацыянальнай праграмы па ўсіх кірунках палітычным, культурным і рэлігійным. Была і яе эпахальная асаблівасць, што добра разумелі вучоныя, а таму імкнуліся нацыю ператварыць у ідэйна аб'яднаную супольнасць. Абапіраючыся на Скарынаўскую Біблію і Статут Вялікага княства Літоўскага, як на сімвалы нацыянальнай годнасці, Баброўскі і Даніловіч імкнуліся ўзняць беларускае пытанне на вышыню, вартую гісторыі нашага народа, і тым самым ідэйна кансалідаваць нацыю. У XX стагоддзе беларускі народ уваходзіў пасіўна, уваходзіў жыхаром "Северо-западного края", чужаком на сваёй зямлі, народам без Бацькаўшчыны, ізаляваным ад сваёй гісторыі, мовы, адукацыі, культуры, уваходзіў з яўнымі прыкметамі распаду нацыі. Сутнасць трагедыі лёсу Беларусі і беларускага народа глыбока зразумеў народны паэт і прарок Адраджэння XX стагоддзя Янка Купала. Таму і распачаў ён свой творчы шлях, як публіцыст. Купалу - публіцыста хвалявалі многія грамадскія праблемы, але можна ў усёй упэўненасцю сцвярджаць, што найвышэйшай і найгалоўнейшай справай ён лічыў змаганне народа за свабоду і незалежнасць сваёй Бацькаўшчыны і за дзяржаўныя правы беларускай мовы, за беларускую школу, асвету, адукацыю, за беларускую кнігу, часопіс, газету... Усе гэтыя праблемы ўзнімаліся Янкам Купалам у самым пачатку XX стагоддзя. 9 ліпеня 1910 года пасля двухдзённай паездкі ў Фінляндыю Янка Купала напіша артыкул "Ці маем мы права выракацца роднай мовы", у якім скажа, што на планеце існуюць тысячы розных народнасцяў, а пазнаецца кожная з гэтага мноства сваёй адвечнай уласнай мовай, бо мова - гэта "выразіцелька душы і думак чалавека". На канферэнцыі вельмі многа ўдзялялася ўвагі гісторыі ўзнікнення, развіцця і станаўлення адной са старажытнейшых славянскіх моў -- мовы беларусаў, яе ўзлётаў і трагічных заняпадаў, яе ролі ў станаўленні суседніх славянскіх моў. І гэта не выпадкова, бо мова народа, як сказала Вольга Іпатава, -- гэта кроў усяго народнага арганізма. Пульсуе гэтая кроў, здаровая яна, тады і ўвесь арганізм пачувае сябе нармальна, паўнацэнным. На вялікі жыль, сёння гэтая асноўная сіла арганізму не мае магчымасці існаваць нармальна. І многія беларусы перажываюць тую стадыю, калі хвароба не выяўляе сябе, але няўмольна разбурае арганізм увесь і да рэшты... І ці не пара сёння ставіць дыягназ і спешна лячыць хваробу. А каб наш народ ачуняў, ён павінен ведаць гісторыю ўзнікнення нашай мовы хоць у агульных рысах, ганарыцца ёю і берагчы, як добры сын беражэ і шануе сваю маці. На вялікі жаль, мала хто з беларусаў ведае, што наша мова вельмі старажытная. Пачатак бярэ з дахрысціянскіх часоў. Удзельнік V Міжнародных Купалаўскіх чытанняў Станіслаў Суднік сваім выступленнем пераконвае нас, што беларуская мова мае пацверджанне свайго існавання яшчэ ў 2300 годзе да нашай эры, што ў далёкай старажытнасці яна была адной з нямногіх міжнародных моваў побач з такімі, як лаціна, грэчаская, санскрыт, арабская, мангольская, ханьская. Міжнароднае бытаванне беларускай мовы ўзбагаціла яе лексіку, але і наша мова ўплывала на станаўленне многіх суседніх моваў: польскую, украінскую, жамойцкую, маскоўскую. У 13-14 стагоддзях беларуская мова як дзяржаўная мова ВКЛ была адзінай пісьмовай мовай ва ўсім славянскім свеце, бо каталіцкае славянства ў тыя часы карысталася лацінаю на пісьме, а ўсходняе славянства, захопленае татара-манголамі, захавала толькі царкоўна-балгарскае рэлігійнае пісьменства. Дасягнуўшы незвычайных вынікаў у сваім развіцці, стаўшы мовай статутаў, грамат, Бібліі, мастацкіх шэдэўраў, здавалася, гэтай мове нічога не пагражае. Але насталі цяжкія гістарычныя часы, беларуская мова перажывае часы забароны і заняпаду, якія абярнуліся стратай пісьменства для цэлага народа. І праз стагоддзі давялося пачынаць усё спачатку. Прыстасоўваючы то лацінку, то кірыліцу, беларусы пачалі фармаваць новую пісьмовую традыцыю, заснаваную на жывой народнай мове. З часам вярнулася пісьменства да беларусаў, а весь абуджэнне свядомасці набыло зацяжны характар. І толькі ўздым рэвалюцыйнай хвалі ў пачатку XX стагоддзя паскорыў гэты працэс. І 20-я гады XX стагоддзя ўвайшлі ў гісторыю як чарговы этап адраджэння ўсяго нацыянальнага ў нашым краі. Беларусы перажывалі нябывалы ўздым у развіцці навукі, культуры, літаратуры і мастацтва, кнігавыдавецкай справы... Аднак у 30-я гады і пасля вайны 1941-1945гг. статус беларускай мовы быў абмежаваны, што адбілася ў першую чаргу на свядомасці вялікай часткі беларускага насельніцтва. Менавіта ў гэтыя дзесяцігоддзі частка беларускага насельніцтва стала дэнацыяналізаванай. У канцы 80-х гадоў узнялася новая хваля адраджэння, якая за кароткі час ахапіла ўсе цывілізаваныя інфраструктуры. Асаблівасцю чарговага адраджэння было тое, што актыўна адраджалася гісторыя народа і гісторыя яго мовы. Народу вярталіся імёны сыноў-патрыётаў, што сталі ахвярамі розных рэжымаў, народу вярталіся яго спрадвечныя гістарычныя сімвалы, з'явілася вялікая колькасць літаратурных твораў на гістарычныя тэмы, мноства навукова-папулярных артыкулаў пра знакамітых гістарычных асоб і іх дзейнасць, пра ўзнікненне гарадоў і паходжанне іх назваў, гербаў, нарэшце з'явіліся грунтоўныя навуковыя дапаможнікі па гісторыі Беларусі, якія сталі асновай для стварэння падручнікаў, а напрацоўкі вучоных далі магчымасць распачаць выданне Энцыклапедыі гісторыі Беларусі (1 том выйшаў у 1993 г.), а ў 1994 годзе нас парадавала "Энцыклапедыя беларускай мовы" -- першае выданне такога тыпу ў гісторыі нацыянальнай культуры. У тыя ж гады, у пачатку 90-х, вучонымі шмат рабілася, каб беларусы ведалі гісторыю нацыянальных колераў і сваю нацыянальную геральдыку, бо гэта мае далёка не апошняе значэнне ў абуджэнні самасвядомасці беларусаў. Менавіта тады з'явіўся артыкул Міхася Ткачова "Нацыянальныя сімвалы: народ і гісторыя", у якім згадвалася і пра першае ўпамінанне герба "Пагоня" ў 13 стагоддзі, і пра тое, што герб мае вялікі перыяд гісторыі ўзнікнення. А пачатак яго ляжыць у старажытнай усходнеславянскай традыцыі абароны бацькоўскага дома, Айчыны, сягае ў родаплемянны перыяд і раскрывае нам сёння самы характэрны бок тагачаснага жыцця і побыту, калі кожны нёс клопат і адказнасць за жыццё свайго супляменніка: калі ворагі нападалі на паселішча і захоплівалі ў палон жыхароў, то кожны мужчына, які меў права насіць зброю, павінен быў пешшу ці конна кінуцца ў пагоню за ворагам і адбіць паланёных. Звычай гэты пражыў стагоддзі. Пра яго апавядаецца ў Іпацеўскім летапісе, апісваючы "пагоню" берасцейцаў за польскім аддзелам у 1280 годзе, які ваяваў каля горада і "паваяваў" па рацэ Кросне дзесяць вёсак. Са здабычаю і з палоннымі аддзел рушыў назад. Берасцейскі ваявода Ціт з 70 жыхарамі горада ўчыніў пагоню. Летапіс гэтую падзею так апісвае: "Берестьяни же собрашася и гнаша по них.. и токо угонивше их и бишася с ними. Божиею же милосью победиша Берестьяне Ляхи и убия их 80, а другия поимаша, а полон свой отполониша. И тако придоша во Берестии со честью, славяще Бога и пречистую его Матерь во вся века".

У бытнасць ВКЛ, калі бясконца трэба было бараніць сваю дзяржаву ад крыжакоў, стаяць заслонам супраць хіжацкіх набегаў крымскіх татараў, традыцыя народнай пагані пачала ператварацца ў ідэалагічны знак эпохі. А пад уплывам еўрапейскай геральдыкі з часам увасобіўся ў графічны сімвал-герб "Пагоня". Упершыню пра гэты герб беларуска-літоўскія летапісы і хронікі паведамлялі каля 1270 года. Спачатку ён узнік як княжацкі і гарадскі герб у старажытным беларускім горадзе Навагародку (Навагрудку). У летапісах Рачынскага, Альшэўскага, Румянцаўскага, у "Хроніцы Быхаўца" герб апісваўся так: "Человек на кони з мечом, ... хто бы мог боронити мечом Отчизны своее...". Апісанне пячаткі ў тых жа помніках было наступным: "Рыцар збройны на коне...". Вельмі сімвалічна і тое, што крыж на старажытнай "Пагоні" дакладна адпавядаў святыні Полацкай зямлі - слаўтаму крыжу Ефрасінні Полацкай. І толькі пасля Берасцейскай царкоўнай уніі 1596 г. крыж на геральдычным шчыце зрабіўся роўнаканцовым ці падвойным.

Герб і сцяг ВКЛ мелі чырвона-белы колер. Герб меў выгляд чырвонага шчыта з белай "Пагоняй". Бел-чырвона-белы сцяг зафіксаваны ўпершыню на мастацкай карціне невядомага мастака, што адлюстраваў бітву пад Оршай 1514 года (карціна захоўваецца ў Нацыянальным музеі ў Варшаве). Дарэчы, папярэдне ў ВКЛ былі сцягі двух колераў: белы і пурпуровы. Але пасля яны былі заменены на трохпалосы бел-чырвона-белы сцяг, дзе дамінуе белы колер - асноўны колер герба, а чырвоная паласа сімвалізуе колер геральдычнага шчыта. Асобна хочацца згадаць і пра нашы нацыянальныя колеры (белы і чырвоны). Пачатак іхняе гісторыі адносіцца да часоў індаеўрапейскай супольнасці, калі большасць плямёнаў шанавала два колеры - белы і чырвоны, бо яны сімвалізавалі чысціню і вечнае жыццё. Асаблівa з павагай да іх ставіліся славяне і лічылі гэтыя колеры святымі. На пачатку белы і чырвоны колер былі асноўнымі колерамі іх адзення, а пазней чырвоныя вышытыя ўзоры, тканыя і плеценыя паясы адыгрывалі ролю абярогаў.

На вялікі жаль, з канца 18 стагоддзя і да канца 1863 года выкарыстанне на беларускай зямлі яе старажытных сімвалаў было немагчымым, а вярнула іх да жыцця паўстанне 1863 года на чале з Кастусём Каліноўскім. І тут трэба адзначыць, што ўлады часам бярuць на сябе замнога, забараняючы нацыянальныя сімвалы. Іх жа знішчыць немагчыма, бо яны маюць трывалую традыцыйную аснову і жывуць у свядомасці нацыі, а таму яны -- неўміруючыя.

У публікацыях канца 80-х гадоў была асветлена яшчэ адна вельмі важная праблема: чаму гісторыкі доўгі час лічылі, што ў беларусаў ніколі не было гістарычных сімвалаў? Справа ў тым, што такое меркаванне панавала ў гісторыі ў выніку ня-

правільнай падачы ўзаемадачыненняў Беларусі і Літвы. Пэўны час у савецкіх падручніках па гісторыі Беларусі сцвярджалася, што Беларусь была заваявана літоўцамі. Але гэта зусім не так. Гістарычныя дакументы сведчаць, што ў XIII стагоддзі, ратуючыся ад рыцараў-крыжакоў з захаду і ад татара-манголаў з усходу, землі Беларусі і Украіны аб'ядналіся з Літвою і ўтварылі ВКЛ на аснове дыпламатычных і палітычных пагадненняў, галоўным прынцыпам якіх было наступнае: "Не рухаць старыны, не вводить новины". Так адбылася ўнікальная з'ява – утварэнне ў цэнтры Еўропы федэрацыі беларускага, літоўскага і ўкраінскага народаў. Славянскі элемент у гэтай дзяржаве меў абсалютную перавагу (9/10 тэрыторыі і насельніцтва). Беларускія землі далі маладой Літоўскай дзяржаве магутны эканамічны падмурак, бо ў самой Літве ў той час гарадоў яшчэ не існавала, а на Беларусі іх было ўжо некалькі дзесяткаў -- буйных цэнтраў ідэалагічнага і культурнага жыцця з добра развітымі рамяством і гандлем, з прававымі традыцыямі.

Многа яшчэ розных праблем было ўзнята на канферэнцыі: праблемы рэлігійных канфесій і іх стаўлення да нацыянальнай мовы, праблема нацыянальнай ідэі на сучасным этапе, пра помнікі дойлідства як сімвалы Беларусі, пра фармаванне "Народнай рэлігіі" і каляндара, пра шляхі кансалідацыі грамадства і адраджэння самасвядомасці беларусаў... Але ўсе ўдзельнікі канферэнцыі прыйшлі да адзінай высновы: беларуская мова - грунт нацыянальнай ідэі і аснова нацыі, а таму павінна свята захоўвацца яе канстытуцыйнае права быць дзяржаўнай мовай тытульнай нацыі.

**Бурбоўская Алена.** "Наша Слова".



# БРЫТАНСКІ МІНІСТАР – ПАЛАЦЕ АБШЧЫН: "СПАДЗЮСЯ, БЕЛАРУСКІ ЎРАД НЯ БУДЗЕ СТАЯЦЬ НА НАШЫМ ШЛЯХУ"

***Дзяржаўны Міністар Вялікабрытаніі сп.Петэр Хаін выступіў 9 ліпеня перад лёнданскай Палатай Абшчын падчас абмеркаваньня парлямэнтарыямі беларускага пытаньня. Міністар пазнаёміў членаў Палаты з падзеямі, якія адбываюцца на Беларусі напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў. Міністар пазнаёміў членаў Палаты з трывожнымі падзеямі ў Беларусі, а таксама міжнароднай абстаноўкаю вакол Беларусі. Ніжэй мы прапануем вашай увазе тэкст выступу цалкам:***

"Беларусь займае важнае стратэгічнае становішча ў Эўропе. Яна зьяўляецца суседам Эўразьвязу і мяжуе з НАТА. Калі прымаць на ўвагу стратэгічнае становішча дзяржавы ва ўсходняй частцы кантыненту, мы шкадуем, што Беларусь, якая давала вялікія надзеі ў момант набываньня незалежнасьці ў 1991г., ніякім чынам ня можа разглядацца ў якасьці члена агульнаэўрапейскай дэмакратычнай сям'і. Сумнеўны рэферэндум 1996 г. істотна пашырыў паўнамоцтвы сп. Лукашэнкі. Недэмакратычна і незаконна падоўжаў тэрмін ягонага кіраваньня да 2001г., а таксама падарваў работу дэмакратычна выбранага Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня. Лукашэнка па-ранейшаму працягвае кіраваць у аўтарытарным стылі, што перашкаджае развіцьцю грамадзянскай супольнасьці.

Ён забясьпечыў адсутнасьць значных паўнамоцтваў у Нацыянальнага Схода – воргана, які ні мы, ні нашыя партнёры не прызнаем у якасьці легітымнага. Важна адзначыць, што сход не аказвае ніякага істотнага ўплыву ні на ўрад, ні на прэзыдэнта. Судовая галіна ўлады таксама не мае незалежнасьці. Судовая практыка неадпаведная і схільна караць людзей па палітычных матывах. Нядаўні працэс над прафесарам Юры Бандажэўскім ёсьць таму прыклад. Так, прафесар крытыкаваў урад за ўтойвайньне інфармацыі пра згубны ўплыў на здароўе чалавека нават невялікіх дозаў чарнобыльскай радыяцыі. Брытанскі ўрад і Эўразьвяз занепакоены той жорсткасьцю, якую ўлады прымянілі адносна прафесара. Восем гадоў калёніі строгага рэжыму за нібы атрыманы хабар зьяўляецца актам помсты; абвінавачваньне засноўвалася на сьведчаньнях адной асобы і ня здолела прадаставіць ніякіх доказаў. Наш урад мае падтрымлівае краіну, дзе дзейнічае рэпрэсыўны рэжым. Некаторыя з такіх праэктаў я згадваў раней. Яны палярызуюць дэмакратыю і грамадзянскую супольнасьць, павышаюць дасьведчанасьць грамадзянаў у сфэры правоў чалавека і ўхваляюць такога кшталту магчымасьць і спадзяемся, што беларускі ўрад ня стане на нашым шляху. Калі ў вас ёсьць нейкія прапановы, з задавальненьнем выслухаю.

### Ліміт на міжнародную фінансавую падтрымку

У дадзенай сытуацыі, мы занепакоеныя наступнай негатыўнай зьявай – выхадам у сьвет у сакавіку месяцы гэтага года прэзыдэнцкага дэкрэту№8. Дэкрэт, які ўжо атрымаў папрокі з боку Брытанскага Ўраду, Злучаных Штатаў і нашых эўрапейскіх партнёраў, рэгулюе і абмяжоўвае выкарыстаньне замежнай фінансавай дапамогі Беларусі. Дэкрэт можа таксама ўскладніць законную дзейнасьць, якой займаемся мы, ЭЗ і АБСЭ па прасоўваньню дэмакратыі і грамадзянскай супольнасьці на Беларусі.

### Дзейнасьць АБСЭ ў Беларусі

КНГ АБСЭ выдатна спраўляецца са сваімі абавязкамі пад уціскам з боку беларускіх уладаў. Яна займаецца карыснымі праэктамі, некаторыя зь іх наўпрост фінансуюцца Вялікабрытаніяй. Глава місіі КНГ АБСЭ быў нядаўна падвергнуты жорсткай крытыцы за сваю дзейнасьць з боку ўладаў, якія нават пагражалі выслаць яго за межы краіны. Я лічу дадзеныя нападкі ў ягоны адрэс абурльнымі, і, вядома, мы і надалей будзем аказваць падтрымку няўтольнай камандзе пасла Віка. Мы спадзяемся, што крытыка, якая сыходзіць ад Лукашэнкі і ягоных памагатых адносна групы КНГ хутка спыніцца.

У Беларусі была магчымасьць прадэманстраваць міжнароднай супольнасьці сваю гатоўнасьць ісьці па шляху дэмакратыі, якую яна выказала напярэдадні кастрычніцкіх парлямэнцкіх выбараў. На жаль, тады яна не скарыстала шанец. БДІПЧ АБСЭ, які вёў назіраньне за выбарамі, прыйшоў да высновы, што выбары не адпавядалі міжнародным дэмакратычным стандартам. У выніку такой фармулёўкі, ЭЗ не прызнае легітымнасьць Нацыянальнага Сходу.

### "Эскадроны сьмерці" і зьнікненьні людзей

Я таксама занепакоены нядаўнімі газэтнымі заявамі аб існаваньні так званых эскадронаў сьмерці на Беларусі. Нашая амбасада ў Менску руплівa адсочвае сытуацыю і абавязкова будзе трымаць нас у курсе падзеяў вакол існаваньня і фукцыянаваньня такіх эскадронаў. Што да зьнікненьняў, Брытанія, як і ейныя эўрапейскія партнёры, неаднаразова заклікалі беларускія ўлады расьсьледваць выпадкі зьнікненьняў намесьніка старшыні ВС 13-га скліканьня Віктара Ганчара, ягонага калегі па бізнэсу Анатоля Красоўскага, былога Міністра ўнутраных справаў Юры Захаранкі і тэлежурналіста расейскага каналу ГРТ Зьміцера Завадзкага. Апошняя заява ЭЗ, якая зьявілася 7 траўня - калі з моманту зьнікненьня Захаранкі прайшло два гады – заклікала беларускі ўрад прыняць магчымае для росшуку зьніклых, што зьяўляецца часткай ціску, які мы аказваем на рэжым.

### Палітыка ЭЗ адносна Беларусі

Палітыка ЭЗ адносна Беларусі засноўваецца на верасьнёўскіх высновах 1997г., зробленых Саветам па агульнай палітыцы. Высновы былі зробленыя з-за незадавалюняючай сытуацыі з канстытуцыйнасьцю і правамі чалавека на Беларусі. Яны ўключаюць у сябе абмежаваньне на двухбаковыя ўзаемаадносіны на ўзроўні міністэрстваў; спыненьне дапамогі Беларусі, акрамя праэктаў, якія непасрэдна перасьледуць гуманітарныя і дэмакратычныя мэты; адозва ратыфіцыраванага пагадненьня аб адносінах паміж ЭЗ і Беларусьсю. А таксама пагадненьня аб супрацоўніцтве; і пагадненьне, падпісанае краінамі-членамі ЭЗ аб недапушчальнасьці ўступленьня Беларусі ў Савет Эўропы.

Злучаныя Штаты трымаюцца аналягічнай абмежавальнай палітыкі адносна Беларусі. Натуральна, і Брытанія і нашыя калегі з ЭЗ не жадаюць ізаляцыі Беларусі, адак мы застаемся занепакоенымі жахлівай сытуацыяй з правамі чалавека, перасьледам апазыцыйных палітыкаў і нежаданьнем беларускіх уладаў расьсьледаваць зьнікненьні некаторых прыхільнікаў незалежных СМІ, выкраданьнях друкарняў і канфіскацыі належнага ім абсталяваньня. Мы гатовыя супрацоўнічаць зь беларускімі ўладамі ў выпадку, калі мы пераканаемся ў тым, што яны становяцца на шлях дэмакратыі і павагі правоў чалавека.

### Свабодныя і справядлівыя выбары

У заяве ад 11 чэрвеня Эўразьвяз даў зразумець уладам, што правядзеньне свабодных і справядлівых выбараў можа стаць крокам насустрач да паляпшэньня іхніх адносінаў зь Беларусьсю. Паўнацэнныя, узаемавыгадныя адносіны пойдуць на карысьць як грамадзянам Беларусі, так і грамадзянам ЭЗ, аднак для гэтага неабходна перш зьмяніць палітычны курс. Жорсткая заява па Беларусі камісара ЭЗ Крыса Патэна, распаўсюджаная ў Эўрапарляманце 5 ліпеня, паказвае, што погляд Эўракамісіі на праблемы на самым высокім узроўні адпавядае нашаму.

Прэзыдэнцкія выбары 9 верасьня прадастаўляюць сп.Лукашэнку чарговую магчымасьць. Падобна, што ён зьяўляецца папулярным палітыкам у сваёй дзяржаве. Таму я заклікаю яго прыняць выклік па правядзеньню дэмакратычных прэзыдэнцкіх выбараў у атмасфэры свабоднай ад жаху, хаця і сумняваюся ў тым, што такое адбудзецца. Пасьля наведваньня Менску 30 чэрвеня – 2 ліпеня Парлямэнцкай рабочай Групай АБСЭ, яна паведаміла аб адсутнасьці пераменаў да лепшага ў палітычным жыцьці Беларусі. Што-ж хоча ад Беларусі міжнародная супольнасьць? Што мы разумеем пад свабоднымі і справядлівымі выбарамі ў гэтай краіне? Мы хочам, каб апазыцыйныя кандыдаты мелі свабодны доступ да дзяржаўных СМІ. Каб інфармацыя пра іх асьвятлялася непрадузята ў выпусках палітычных навінаў. Мы хочам, каб палітычная кампанія была свабодная ад рэпрэсіяў, пачынаючы з працэдуры рэгістрацыі і збору подпісаў, якія адбываюцца на дадзены момант. Мы хочам, каб працэдура галасаваньня і падліку бюлетэняў была празрыстай і надзейнай з пажаданым назіраньнем з боку паўнапраўнай міжнароднай місіі маніторынгу, упаўнаважанай БДІПЧ АБСЭ. Нас цікавіць не перамога якога-небудзь кандыдата з кандыдатаў, а якім чынам будзе дасягнута гэтая перамога. Нас цікавяць не канкрэтныя асобы, а сумленнасьць і празрыстасьць выбараў.

### Ключавая роля Расеі

Нам не варта таксама недаацэньваць важкасьць ролі Расеі. Расея, зьяўляецца самым блізкім і буйным гандлёвым партнёрам Беларусі, мае вялікую магчымасьць чым астатнія аказваць станоўчы ўплыў на Беларусь. Я спадзяюся, што Расея паспрабуе пераканаць свайго суседа ў неабходнасьці ўзгадненьня палітыкі з дэмакратычнымі нормамі краіны-члена АБСЭ і кандыдата для ўступленьня ў Савет Эўропы. Я таксама спадзяюся, што астанія суседззі Беларусі, уключна з краінамі Бальтыі і Ўкраіны скарыстаюць свае адносіны з Менскам, каб даевьсці да ведама беларускіх уладаў.

Мы б хацелі разьвіць нашыя двухбаковыя адносіны зь Беларусьсю. Для нас гэтая краіна занадта важная, каб мы маглі ёй пагарджаць. Правядзеньне свабодных і справядлівых прэзыдэнцкіх выбараў паслужыць крокам у накірунку да ажыцьцяўленьня гэтай ідэі".

---

27-га ліпеня ў Менску прайшоў канцэрт, прысьвечаны угодкам незалежнасьці Беларусі. На яго прыйшлі каля 2 000 чалавек. У канцэрце ўзялі ўдзел знакавыя беларускія гурты - "Крама". Н.Р.М., "Уліс" ды іншыя. Міліцыя сканфіскавала падчас канцэрту ўлёткі й умоўныя выбарчыя скрыні, у якія, як плянавалася, моладзь кідала б своеасаблівыя бюлетэні, вызначаючы свае сымпатыі сярод магчымых кандыдатаў.

*****************************************

## Тры ???

Менш як за 7 тыдняў да прэзыдэнцкіх выбараў на "Славянскі базар" у Віцебск да Аляксандра Лукашэнкі прыляцелі прэзыдэнты Ўкраіны й Расеі. Ніякіх дакумэнтаў па выніках сустрэчы падпісана не было. А.Лукашэнка, які прымаў У.Пуціна й Л.Кучму ў сваёй загараднай рэзыдэнцыі, падзякаваў гасьцям за прыезд і заявіў, что "Віцебск - ня толькі беларускі - гэта наш агульны горад". Як паведамляе карэспандэнт Рацыі, Лукашэнка й Кучма прыбылі на сустрэчу ў кашулях і гальштуках, а Пуцін, які пад'ехаў пазьней, застаўся ў пінжаку. Гэта, аднак, не наблізіла кіраўнікоў краіны да абмеркаваньня канкрэтных пытаньняў. З заяваў афіцыйных асобаў вынікае, што лідэры размаўлялі "пра ўсё". На цырымоніі закрыцьця "Славянскага базару" тэма прэзыдэнцкіх выбараў стала ці не галоўнаю, а дыктар расейскага тэлебачаньня Бярэзін, які вёў канцэрт, так і пажадаў: "Спадзяюся ўбачыць прэзыдэнта Лукашэнку ў наступным годзе".

Нам пераслалі наступную прыпеўку на "Славянскі базар":

Тры кацапы,
Тры саўкі да сьмерці, --
Экіпаж славянскае херні...

## КУРС ДОЛАРА





# Энцыклапедыя пра Нёман

Выдавецтва "Юнацтва" распачало выпуск серыі кнігаў пра рэкі Беларусі. Першай ластаўкай стаў зборнік "Бацька наш Нёман". Укладальнік — паэт Яўген Хвалей. Дарэчы, ён і сам нарадзіўся на Нёмане.

Нёман для беларуса — гэта што Волга для рускага, Днепр для ўкраінца, Вісла для паляка. Рака гэта — увасабленне лёсу беларускага народа. Хто яго толькі не ўслаўляў, не складаў яму песень! З усіх вялікіх нашых рэк толькі Нёман бярэ пачатак на радзіме. Гэта — Уздзеншчына, вёска Верх-Нёман. Потым ён зліваецца з Лошай, пасля прымае ў сябе воды Усы і далей праз Гродна, Літву яго шлях пралягае да Балтыйскага мора.

Улетку 1995 года ў г.Узда праходзіла міжраённая канферэнцыя, прысвечаная Нёману. Удзельнікі яе непадалёку ад вёскі Верх-Нёман адкрылі памятны знак — камень-валун з таблічкай.

Зборнік адкрываецца нарысам беларускага і польскага паэта Уладзіслава Сыракомлі "Нёман ад вытокаў да вусця", які выйшаў у Вільні ў 1861 годзе на польскай мове, але да нашых дзён не перакладаўся. Пятро Стэфановіч зрабіў пераклад спэцыяльна для гэтага выдання. Так што чытач можа параўнаць апісанне Нёмана і мясцін на яго берагах, якія зроблены амаль 150 гадоў назад.

Падарожжа па Нёмане — гэта падарожжа па нашай Бацькаўшчыне. З XIII стагоддзя стаіць на гэтай рацэ вёска Магільна. Каля яе археолагі знайшлі вялікі сярэдневяковы магільнік (адсюль і назва), які потым быў разбураны разам з замчышчам.

На уздзенскай зямлі нарадзілася шмат славутых людзей. Палац вучонага Якуба Наркевіча-Ёдкі знаходзіўся на высокім беразе ракі ў вёсцы Наднёман. Яшчэ ў 1896 годзе ў Парыжы выйшла пра яго кніга. Парыжскія рэпарцёры празвалі яго "электрычным" чалавекам. А вось на радзіме пра Наркевіча-Ёдку мала хто ведаў. А ён вынайшаў градаадвод (так-так!). На яго палях ураджай заўсёды захоўваўся, град ніколі не біў пасевы. Вучоны добра ведаў законы фізікі і шмат зрабіў у гэтай галіне. У сваім маёнтку адкрыў санаторый. Побач знайшоў мінеральную ваду, стварыў кумысную лячэбніцу. Наркевіч-Ёдка з'яўляўся членам-карэспандэнтам Пецярбургскага ўнівэрсытэта.

Паблізу прытока Нёманца, на Усе, ляжыць вёска Нізок, вёска пісьменнікаў, паэтаў, артыстаў. Тут нарадзіліся К.Крапіва, П.Трус, Л.Арабей, народны артыст А.Трус. Уздзеншчына — радзіма П.Глебкі, І.Гурскага, А.Якімовіча, А.Махнача, самадзейнага кампазітара П.Шыдлоўскага.

Паціху Нёман даплывае да Стоўбцаў, да мястэчка Свержань, да вёскі Жукаў Барок, дзе ў часы Ул.Сыракомлі ён папаўняўся водамі рэчкі Ячонка, якую ў 60-ыя гады мясцовыя меліяратарыператварылі ў звычайную канаву. Тут, у фальварку Залуча, Уладзіслаў Сыракомля арандаваў зямлю. Гэтыя лугі ён пазнаваў па паху, а ваду з Нёмана — па смаку. Нёману паэт прысвяціў сваю манаграфію і чатыры вершы. На Нёмане ўзгадаваўся народны пясьняр Якуб Колас. Мусіць, больш ніхто не праслаўляў так гэту раку, як ён:

Высокі Бераг, кут мой мілы!
Люблю я жоўць тваіх пяскоў,
Разложных хвоек гурт пахілы
І ціхі гоман лазнякоў.

У маляўнічым кутку Панямоння на беразе Міранкі размешчана мястэчка Мір, вядомае сваім замкам, якому больш за 400 гадоў. Далей па цячэнні Нёмана — гарады Ваўкавыск, Зэльва... Гродна стаіць на правым беразе Нёмана з руінамі сваіх замкаў, з касцёламі і вежамі. Ён тут паўнаводны, прыгожы. Непадалёку, у Ліпічанскай пушчы, збіраліся паўстанцы ў атрады Кастуся Каліноўскага.

Нёман працякае па нашай рэспубліцы на працягу 500 кіламетраў і амаль столькі ж па Літве.

Некалі з Нёмана беларусы вылоўлівалі невады рыбы. Сёння яе стала значна меней. Ды і Нёман памялеў, але не страціў сваіх галоўных якасцей — ракі-працаўніцы, карміцелькі, песенніцы.

І кожны, хто ўзгадаваўся на яго берагах, прыходзіць сюды, каб падумаць, памарыць, каб набрацца сіл для жыццёвай дарогі. Укладальнік зборніка "Бацька наш Нёман" шмат папрацаваў над падборам і сыстэматызацыяй вершаў, апавяданняў, нарысаў, эсэ, урыўкаў з аповесцей, раманаў, навуковых прац Уладзіміра Мархеля, Вольгі Іпатавай, Генрыха Далідовіча, Вінцэся Каратынскага, Алаізы Пашкевіч, Адама Плуга, Рыгора Барадуліна, Эдуарда Межэлайціса і многіх іншых. Амаль усе яны нарадзіліся на Нёмане, і кожны з іх пісаў пра свае мясціны і пра сваіх людзей.

Адным словам, кніга ўдалася. Яе аб'ём — 26 улікова-выдавецкіх аркушаў — змясціў столькі цікавага матэрыялу, што яе можна назваць энцыклапедычным даведнікам пра галоўную раку беларусаў.

**Тамара Запольская** (Б. Ч.)

# Акт Незалежнасьці Беларусі

Мы, дэлегаты Ўсебеларускага зьезду, паўнамоцныя прадстаўнікі ўсіх рэгіёнаў Рэспублікі Беларусь,

-- усьведамляючы адказнасьць за будучыню Беларусі;

-- напамінаючы, што Беларусь зьяўляецца дзяржавай-заснавальніцай Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў;

-- грунтуючыся на прынцыпах і нормах міжнароднага й нацыянальнага права,

**ЗАЯЎЛЯЕМ:**

Беларускі народ мае тысячагадовую гісторыю сваёй дзяржаўнасьці: ад Полацкага княства, Вялікага княства Літоўскага, Беларускай Народнай Рэспублікі да сучаснай Рэспублікі Беларусь. Прынятая Вярхоўным Саветам 27-га ліпеня 1990 году, Дэкларацыя аб дзяржаўным сувэрэнітэце сьцьвярджае яго дзеля галоўнай мэты - свабоднага развіцьця й дабрабыту, годнага жыцьця кожнага грамадзяніна. Яна абвяшчае незалежнасьць краіны ў вонкавых дачыненьнях, вяршэнства, самастойнасьць і паўнату дзяржаўнай улады, дзеючай на падставе правамоцных законаў. Любыя гвалтоўныя дзеяньні супраць нацыянальнай дзяржаўнасьці павінны перасьледавацца як найвялікшае злачынства.

Ідэі Дэкляравацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце былі замацаваны ў Канстытуцыі, прынятай 15 сакавіка 1994 году, легітымна абраным парлямэнтам. Паводле яе, Беларусь увайшла ў сьвет як нэўтральная, мірная й бяз'ядравая дзяржава. Незалежнасьць Беларусі зьяўляецца набыткам ня толькі сёньняшняга пакаленьня, але й нашых продкаў і нашчадкаў. Сувэрэнітэт краіны ня можа быць абмежаваны праз рашэньні вышэйшых дзяржаўных асобаў і органаў - і нават праз рэфэрэндум.

Сёньня незалежнасьць Рэспублікі Беларусь пастаўлена пад пагрозу. Рэальнай небясьпекай ёй стаў дагавор аб стварэньні адзінай саюзнай дзяржавы з Расеяй, падпісаны 8 сьнежня 1999 году прадстаўнікамі ўладаў, чыя легітымнасьць ставіцца пад сумненьне ў большасьці краінаў сьвету. Не бывае двох сувэрэнітэтаў у адной дзяржаве.

Мы - за добрыя, раўнапраўныя й узаемавыгодныя адносіны з усімі краінамі сьвету, і асабліва з суседзямі: Расеяй, Украінай, Польшчай, Літвой, Латвіяй. Але мы не жадаем станавіцца рэгіёнам ніякай дзяржавы. Сувэрэнітэт ня можа перадавацца іншай дзяржаве ці новастворанаму дзяржаўнаму ўтварэньню.

Незалежнасьць - гэта натуральнае права ўсяго народу, кожнага грамадзяніна.

Мы, дэлегаты Ўсебеларускага зьезду,

**СЬВЕДЧЫМ:**

Богам дадзенае нашаму народу права мець сваю незалежную дзяржаву;

**АБВЯШЧАЕМ:**

Дзяржаўны сувэрэнітэт неад'емнай каштоўнасьцю беларускага народу;

**ПРЫЗНАЁМ:**

Ня маючымі законнай сілы любыя пагадненьні й рашэньні, скіраваныя на скасаваньне альбо абмежаваньне сувэрэнітэту Беларусі;

**ЗАКЛІКАЕМ:**

Міжнародныя арганізацыі, урады дэмакратычных дзяржаваў, сусьветную грамадзкасьць забясьпечыць гарантыі сувэрэнітэту Рэспублікі Беларусь.

Заклікаем суайчыньнікаў згуртавацца вакол ідэяў Акту Незалежнасьці.

Жыве Беларусь!

## УЛАДЗІМЕР ГАНЧАРЫК: НАША КАМАНДА ВЕДАЕ, ЯК ВЫВЕСЬЦІ КРАІНУ З КРЫЗІСУ

*Прэс-канферэнцыя з удзелам адзінага кандыдата ў прэзыдэнты ад аб'яднанай дэмакратычнай апазыцыі Уладзімера Ганчарыка й членаў дэмакратычнай "пяцёркі" – Сяргея Калякіна, Паўла Казлоўскага й Міхаіла Чыгіра прайшла ў Менску. Уладзімер Ганчарык паведаміў журналістам пра сканчэньне працы "пяцёркі" над структурамі аб'яднанага штабу адзінага кандыдата ў прэзы дэнты, які ўзначаліў лідэр руху "За новую Беларусь" Васіль Лявонаў. Было заяўлена і пра стварэньне прэзыдэнцкага савету, у склад якога ўвайшлі ўсе члены "пяцёркі" і які, па вобразнаму выразу Ганчарыка, уяўляе сабой "мазгавы цэнтар" вылучэньня ў прэзыдэнты адзінага кандыдата ад апазыцыі.*

Стала вядома, што тэхналягічны штаб адзінага кандыдата ўзначаліць лідэр жаночай партыі "Надзея" Валянціна Палевікова. Створаны таксама палітычны штаб, куды павінны ўвайсьці прадстаўнікі ўсіх вядучых беларускіх партыяў.

У працы "пяцёркі" актыўны удзел прымае Міхаіл Марыніч, Надзвычайны й Паўнамоцны пасол Беларусі ў Латвіі, Фінляндыі й Эстоніі, які пайшоў у адстаўку. Верагодна, у хуткім часе ён увойдзе ў прэзыдэнцкі савет. Працаваць адной камандай, па словах Ганчарыка, было прапанавана яшчэ аднаму прэтэндэнту на пост прэзыдэнта Аляксандру Ярашуку. Леніду Сініцыну, заўважыў Ганчарык, далучацца да "пяцёркі" ніхто не прапаноўваў.

Уладзімер Ганчарык паведаміў пра пачатак уціску й застрашэньня членаў яго камандзы, а таксама ў тым, што ў Слуцкім раёне на дадзены момант зараз ідзе уціск з боку мясцовых улдаў на людзей, якія паставілі свае подпісы за яго. Па ягоных словах, ад іх пад пагрозаю звальненьня з працы патрабуюць адазваць подпісы.

Уладзімер Ганчарык распавёў коратка і пра рэформы, якія плянуе правесьці ў краіне ягоная каманда ў выпадку перамогі на прэзыдэнцкіх выбарах: *"Галоўная тэза нашай выбарчай кампаніі ў тым, што наша каманда ведае, як вывесьці Беларусь з крызісу. Трэба перапэўніць людзей, што зьмены проста неабходны, і мы ведаем, як іх правесьці".*

*"Дзяржава ня будзе ўхваляць сацыяльнае ўтрымальніцтва. Нам не па сілах такая армія, нам не па сілах такая міліцыя, нам не па сілах такія кантрольныя органы. Іх не ўкарміць. Усе грошы неабходна злучыць у дзяржаўным бюджэце пад кантролем парлямэнту, які павінен ажыцьцяўляць усе функцыі. А то ён зараз у нас як пісьмовая кантора і то бяспраўная.*

*Мы адменем усе непатрэбныя абмежаваньні – ліцэнзаваньне, рэгістрацыя, бясконцыя штрафныя санкцыі з тым, каб даць магчымасьць развівацца ўсім формам уласнасьці. Гэта складаная задача. Бо Лукашэнкам заўсёды насаджалася цалкам іншае – "я дам!, параўнялаўка й т.д. Усё гэта выключана. Цыкл пераўтварэньняў у Беларусі адбудзецца. Другая праблема для Беларусі – гэта праблема, зьвязаная з традыцыйнай прамысловасьцю. І без стварэньня новых працоўных месцаў, мы так і будзем трымаць лішкавую колькасьць рабочых на прадпрыемствах і выплочваць ім мізэрны заробак за кошт крэдытаў і інфляцыйных грошай. Неабходна ствараць новыя накірункі вытворчасьці. Зьнешняя палітыка вельмі простай будзе – адмовіцца ад пошуку ворагаў. Адзіны крытэр – ня ў шкоду нацыянальным інтарэсам. Беларусь павінна быць дэмакратычнай незалежнай дзяржаваю".*

**Сакрат Яновіч**

# 2 х 2 = 4

## Пра непаказное польска-беларускае сужыцьцё

Толькі зь вялікай нацяжкаю можна казаць пра грамадзкую гісторыю польска-беларускага сужыцьця ў Крынках і, наагул, на Крыншчыне. Польскіх этнічных анкляваў тут ніколі не было й не магло быць. А рэлігійны падзел на праваслаўных і каталікоў не адпавядаў моўнаму: польская мова чулася інцыдэнтальна, зазвычай ад дзяржаўных функцыянэраў. Нацыянальная сьведамасьць мела элітны характар, люд жа называў сябе „тутэйшымі“ (незалежна ад веравызнаньня). Праўда, існавала самавызначэньне „рускі“ або „польскі“, што акрэсьлівала ўсяго толькі падлегласьць расейскай царкве або польскаму касьцёлу. Векам раней *усе* былі ўніятамі (акрамя шляхты).

Заставалася тое так доўга, як доўга Польшча ўяўлялася дзяржаваю паноў. Ува ўмовах клясавай адрынутасьці сялянаў ды местачковай галоты.



І, як гэта ў нашай гісторыі зазвычай бывала, чарговы палянізацыйны выбух выклікала... Расея. У верасьні 1939-га прыйшлі сюды Саветы, што найперш не спадабалася ксяндзам ды іх парафіянам. Аднавіўся прыцарскі стэрэатып Маскаля, але ўжо ў моцна зьмененых сацыяльных умовах, калі адбылася дэмакратызацыя адносінаў паміж багатымі каталіцкімі вярхамі й каталіцкай басотаю. Пасьпела зьвіцца праслойка „кулакоў“ і местачковай дробнай буржуазіі няпанскага паходжаньня. Размывалася паняцьце палякапана, хоць у штодзённым абыходку надалей пераважала тады форма „вы“. Формы „пан-пані“, бышцам парадкасальна, авалодалі вулічным натоўпам не раней, чымсьці за камуністычнымі часамі. Сёньняшы „вы“ лічыцца вульгарным русізмам, абражальным слоўкам.

За першымі Саветамі (1939–41 гг.) меў месца заўважны зрух у каталіцкіх масах у бок польскай нацыянальнай сьведамасьці, спачатку цалкам па прычыне абадранства новай улады, якая нічым істотным не імпанавала, а выклікала толькі дзікі страх. Асабліва няўтульна пачувалася праваслаўная частка насельніцтва, якая ня мела куды схіліцца, бо міт багатай Расеі распылілі самі Саветы, замораныя анучнікі. Каталікі апынуліся ў эмацыйна лепшым становішчы — зьзяла над імі далёкая зорка Польшчы.

У нямецкую акупацыю гэтае зьзяньне набыло бляску дзякуючы Арміі Краёвай, ейнаму крытыцызму да перадваеннай Польшчы, прапагандзе тыпу „ўсе палякі роўныя“. У структурах АК — а былі яны сапраўды масавыя — паявіліся, так сказаць, палявыя камандзіры, людзі з грамадзкіх нізінаў, якія ў даваенным войску маглі быць не вышэй сэржанцкіх пагонаў. Прычым у АК плацілі за службу, праўда, няшмат даляраў, але хлопцам і дзяўчатам зь вёсак, што ня бачылі грошай, было гэта многа і надта ўзвышала іхнае пачуцьцё асабістае вартаснасьці. Нарэшце нехта ўшанаваў іх, даценіў. Будаваць Армію Краёвую даводзілася з такога чалавечага матэрыялу; афіцэрскі корпус зь верасьня 39-га знаходзіўся ў палоне.

Акупацыйны пэрыяд — гады 1941–44 — вызначыўся яшчэ й такою асаблівасьцяй, што праваслаўным не давяралася, — як патэнцыйным прыхільнікам камуністаў і наскіданых з самалётаў савецкіх партызанаў. Быць каталіком, а найлепей Палякам азначала большую асабістую бясьпеку. Фармацыі АК не зачапалі немцаў, у адпаведнасьці са штабною дактрынаю „двух ворагоў“; фашызм змагаўся з бальшавізмам, таму апэратыўныя пляны польскага мілітарнага падполья залежалі ад разьвіцьця сытуацыі на фронце, з разьлікам на фінальнае аслабленьне абодвух ваюючых бакоў, каб магчы выступіць потым у ролі сьвежай і добра арганізаванай трэцяй сілы, дыктуючай у фінале ўмовы кожнаму акупанту. У цывільным кантэксьце глеба дзеля такога зыходу справаў рыхтавалася шляхам насычанасьці адміністрацыйных уладаў польскім патрыятычным элемэнтам, што не ўяўляла сабою надта вялікай складанасьці: нямецкія акупанты, ня маючы чалавечых рэзэрваў, ахвотна прымалі на службу спрактыкаваных бюралістаў, натуральна, з кадраў упалай Польшчы. Адукаваныя асобы з асяродзьдзя праваслаўных былі рэдкасьцяй, і таму акупацыя адрозьнівалася ад даваеннае Польшчы — у масавым адчуваньні — тым толькі, што начальнікамі сталі немцы й хадзілі нямецкія грошы.

Частыя расстрэлы праваслаўных і ня так частыя каталікоў, якія знаходзілі абарону з боку каталіцкіх функцыянэраў, пасеялі й замацавалі раскол паміж канфэсіямі. Гэта тады „польскія“ парабіліся палякамі. „Рускія“ надалей заставаліся тутэйшымі, беларуская прапаганда сюды слаба даходзіла, спарадычна, без арганізацыйнай рэгулярнасьці. У лясох сядзелі Саветы, сваімі поначнымі нападамі на жандараў дадаткова згушчаючы аўру падазронасьці да „кацапаў“.

Нэгатыўнае стаўленьне да „першых Саветаў“, іхных калгасаў трохі лагодзіла ціхая камісарская палітычная плётка, што Сталін нібы даў загад вярнуць гаспадарам зямлю, адчыніць усе цэрквы. Частковым доказам таго бачыліся зноў афіцэрскія пагоны ды барадатыя бацечкі як капэляны ў вайсковых атрадах (нікому не прыходзіла ў галаву здагадка пра ліпнасьць такіх заходаў, дзейнічаў міт дрэнна інфармаванага добрага цара).

Чарговы ўздым польскасьці ў нашым староньні зноў жа выклікалі расейцы, цяпер у якасьці расейскамоўных Саветаў, у іх другі прыход летам 1944 году. У выніку Ялцінскіх пагадненьняў — вяртаньня да старога праекту „лініі Керзана“ — Беласточчына адыходзіла пад Польшчу, і таму заеліся езьдзіць па вёсках і мястэчках камісарскія агітатрады, арганізоўваючы рэпатрыяцыю насельніцтва ў Савецкі Саюз. Па маскальскай звычцы яны не чапалі каталікоў, лічачы іх палякамі. Усю сваю энэргію й „кацапскую“ хітрасьць канцэнтравалі на праваслаўных, маючы ад таго відавочную карысьць у выглядзе рублёвых авансаў. Вынікаў дабіліся, аднак, мізэрных. Паддаліся іхным „ўговорам“ адны былыя актывісты камуністычнага падпольля й партызанскія сувязныя, якім пагражала „куля ў лоб ад АК“ (трохі напраўду назабівалі). Праваслаўная маса надалей баялася калгасаў і бальшавіцкага безгалоўя, няблага спазнаных за „першымі Саветамі“. У тое двухгодзьдзе ўпаў міт „власти народа “: поначныя выклікі на „белыя мядзьведзі“, дэфіцыт тавараў, славутыя „очереди“, дармавая праца на вырубках лясоў, нелягічнасьць уладных пачынаньняў, нахабнае махлярства ўсякіх начальнікаў ды іх культурны прымітывізм. І мноства іншых нечуваных заганаў, якіх не было пад „панскай Польшчаю “, што ўсё ж пільнавалася законнасьці. У яе адміністрацыйны апарат не дапускаліся дэбілы ці амаральныя адзінкі, п'яніцы.

Такім чынам апынуліся праваслаўныя пад ціскам падвойнага страху, дакладней кажучы: з абодвух бакоў — зьвязаныя з АК палякі ахвотна выштурхоўвалі іх у „савецкі рай“, што вельмі падабалася тым жа агітатарам, ад якіх адзінаю абаронаю было атаясаміцца з паляцтвам. Памятаная старажыламі багатая царская Расея зрабілася вось сынонімам бяды й няшчасьця. Характэрны наконт гэтага інцыдэнт быў недзе ў 1948 годзе. Калі ў час канчатковай дэлімітацыі дзяржаўнай мяжы выявілася, што шэраг вёсак Саветы беспадстаўна далучылі да Беларускай ССР (уздоўж рэчкі Сьвіслач — Малыя Азяраны, Вялікія Азяраны, Белагоры, Ласіняны, Рудакі, Юраўляны і інш.), вяскоўцы паракапалі дарогі да іх мясцовасьцяў глыбознымі равамі, а калі савецкія пагранічнікі ўзяліся засыпаць, каб маглі праехаць грузавікі дзеля вывазу людзей у глыб БССР, бабы зь дзецьмі й старымі мужчынамі палягалі перад машынамі... няшмат ім, пэўна, гэта дапамагло б, але, відаць, умяшаліся тадышнія польскія ўлады, яшчэ паўбуржуазнага толку. Азяранцы з ласінянцамі, хоць і праваслаўныя, мала не пашалелі ад радасьці, што вярнулася да іх Польшча. Яны пасьля ня надта хацелі й прызнаваць сябе беларусамі, зь пярэпалаху таго. Дачок і сыноў, як толькі падрасталі, хутка выпраўлялі ў сьвет, абы далей ад чырванасьцяжнай краіны.

Ніхто не прамяняе лепшае на горшае, нават нацыяналіст або нават сын Хрушчова, што ўдала пастараўся аб амэрыканскае грамадзянства. Гэта ўнівэрсальнае. У Чэскай Рэспубліцы, за рэчкаю Ользаю, існавала так званая Малая Польшча, рэгіён, заселены амаль выключна палякамі, якім пасьля вайны далі магчымасьць рэпатрыявацца ў Маці-Айчыну. Калі з Заходняй Беларусі і Ўкраіны імчалі ў той час за Буг сотнямі тысяч, дык з таго ж Заользя раптам... адна асоба! Бо быт у Чэхіі не саступаў эўрапейскаму. Сёньняшы там польскамоўнае скурчылася да інтэлігенцкай элітнасьці, нягледзячы на афіцыйнае дзьвюхмоўе, урадавае заахвочваньне ажно да ўзроўню нечага кшталтам культурнай аўтаномнасьці. Асымілююць не нацыяналісты супрацоўнай нацыі, але супольны хлеб, лёс.

Адраджэньне польскага духу ў заходніх рэгіёнах былога Савецкага Саюзу адбываецца ня столькі ад безагляднага каханьня да нацыянальнае культуры, хоць і гэта важнае, але перш за ўсё нават ад іміджу паляка як чалавека нябеднага, нежабрачага. У Польшчы нават беспрацоўны маецца лепей, чымся працаўнік калгасьнік. Прычым заўсёды можа падхапіць неафіцыйную халтурку, г. зн. ціхі заробак, не абкладзены падаткам.

„Благодаря“ расейскаму імпэрыялізму этнічная база дзеля ўзьнікненьня беларускай нацыянальнай сьведамасьці скурчылася ў нас да арэалу праваслаўя, што цалкам задавальняла й варшаўскі ўрад, які спадцішна пабойваўся, каб Крэмль не дадумаўся перагледзець граніцы, кіруючыся этна-нацыянальным прынцыпам. Сьледам за татальным расьсяленьнем украінцаў, што кампактна пражывалі на закерзоньні — ад Уладавы й Холму да Замосьця, Пярэмышля й Крыніцы, — высьпяваў у Варшаве намер гэтак жа распыліць па захадзе Польшчы беларускамоўную Беласточчыну. Кінулі думаць пра гэта, калі аказалася, што этнічныя беларусы зусім ня хочуць быць беларусамі. З украінскімі ваколіцамі ў галіцкай Польшчы было дакладна наадварот, і таму польскае кіраўніцтва скварна пакарысталася прэтэкстам змаганьня з партызанскай Украінскай Паўстанскай Арміяй, што ваявала на цяперашні чачэнскі манер.

Ліквідацыя беларускамоўных школаў ды гімназіяў адбывалася на працягу другое паловы 1945 году й закончылася да 1947 г. Пра нейкія масавыя пратэсты супроць таго ня чулася; некалькі непакорлівых настаўнікаў спэцслужбы выкінулі за савецкі кардон, дзе ім „жаба цыцкі дала“ ў сібірскіх лягерох. Само насельніцтва, па-мужыцку закамплексаванае, нават задаволілася, што дзецярня будзе вучыцца на „панскай мове“. Асабліва праваслаўныя моцна зважалі, каб часам хто не падумаў, што яны не-палякі, ды не турнуў, бы тых няшчасных „вучыцеляў“, у абадраную калгасную рэспублку. Праваслаўны, апынуўшыся ў Беластоку, таіўся са сваім веравызнаньнем, „клеіў дурня“ пад каталіка; адважнейшыя зь іх паўканспіратыўна хадзілі нядзелькамі сьвятымі ў Мікалаеўскі сабор, дзе лягчэй зрабіцца ананімам у людным зборышчы.

У пасьляваеньне стала правілам зьмяняць характэрныя праваслаўныя імёны на польска-каталіцкае гучаньне й адыходзіць ад „мужыцкай мовы“ ўбок „панскай“. Я сам, будучы вучнем беластоцкага Электрычнага Тэхнікуму, патрацію сваіх крынкаўскіх калегаў і каляжанак па той простай прычыне, што ўпарта не гаварыў зь імі па-польску. Беларушчына пераўтваралася ў нас у пазнаку забітасьці, дурнаты, галотнасьці, філясавецкасьці.

Бацькі не абураліся. Палянізацыя набыла ашаламляльных тэмпаў, калі перайшла ў самапалянізацыю. Польскія шавіністы ажно разьзявіліся ад дзіва. Ім і ня сьніліся такія эфэкты! А ўсё тое адбывалася — паўтару! — у страхотным ценю Савецкага Саюзу. Праўда, і ў Польшчу насунуўся камунізм, але гэта быў камунізм, нялюбы Палякам, і таму ня так фашызоўчы, як у жахлівай Расеі. Знакаміта ілюструе тую тады атмасфэру анэкдот пра сабаку, што ўцякаў ад Саветаў, і затрымалі яго пагранічнікі чырваназорныя ды патлумачылі дурню на чатырох лапах: „Куды ты?! У Польшчы такі самы лад, як і ў „стране советов“. — „Так, гэта праўда, але ў Польшчы хоць набрахацца можна“, — адказаў цюцік.

Псыхалёгія грамадзтва вытварыла новыя стэрэатыпы па той аналёгіі, што нямецкая мова асацыявалася з фашызмам (недзе да 1948 году забаранялася пісаць „Немец“ зь вялікае літары, лічачы, што гэта нацыя нелюдзяў). Тымі новымі стэрэатыпамі сталі ўсялякія расейскападобныя польскаму вуху моўі як сымбаль нялюдзкага камунізму, яго гукавая экспрэсія. Польская мова сталася ня толькі панскай, але яшчэ й моваю свабоды, пашаны да чалавека. Палякі нават у лаянцы называюць сябе панамі, і толькі даведзеныя да шалёнае злосьці, пачынаюць сыпаць расейскімі вульгарызмамі (зь недахопу іх у пальшчызьне). Іншы прыклад: ідзе нудлівы эстрадны нумар, публіка пазяхае, і раптам актор вымаўляе нешта па-расейску, і заля выбухае рогатам (у 1995 г.). У палове пяцьдзясятых прыехаў зь Менску ў Беласток Купалаўскі тэатар з пастаноўкаю „Рамэа й Джульеты“. Нічога сьмешнага, але публіка з мужыцкіх новамяшчанаў несьціхана рагатала, так дзейнічаў стэрэатып беларускага слова, якім нічога добрага ці сур'ёзнага нельга сказаць. Толькі камэдыю, толькі камэдыю... Вядома, ніхто й ня чуў пра такі твор, як „Рамэа й Джульета“. Усе былі ўпэўненыя, што Саветы прыехалі з „камэдыйкаю“. Вось так. Вось цо да! Калі ў даваеньне польская мова не выйшла ў нас па-за інтэлігенцкую ды ўрадніцкую элітнасьць, а веравызнаўчымі масамі ўспрымалася яна даволі абякава як мова „ня з нашага жыцьця“, дык у пасьляваеньне — у выніку сацыяльнай рэвалюцыі ўсё ж — беларуская нацыянальная мова заняла як быццам месца польскай, якая ў форме спэцыфічнай „трасянкі“ зрабілася ўсенароднай. Аналізуючы гэтую зьяву ў больш шырокім кантэксьце, скажам, на прыкладзе гэтак жа хуткага самааняемечваньня або самачэхізацыі польскіх меншыняў за межамі Польшчы, што пакіданьне радна-моўя выклікана ягонай цывілізацыйнай нефункцыянальнасьцю. Пакуль нямецкая дзяржаўнасьць у вачох Мазуроў ува Ўсходняй Прусіі абмяжоўвалася падаткамі і жандарамі, аўтахтоны славянскія часта-густа зусім не разумелі па-нямецку, ня мелі патрэбы. Але ў прыход капіталізму ды зьяўленьня пэрспэктываў на нечуваны дабрабыт Нямеччына перастала быць мазурам чымсьці чужым; наступныя пакаленьні запатрабавалі „дойчэ шпрэхэн“. Нерусіфікаванасьць Прыбалтаў ад таго, што ў іх жывая памяць уласнага хлеба і сала, а прыход туды Расеі бачыўся імі навалаю барбараў. Не бядак жа

асымілюе багатага. Антычны Рым раманізаваў каго хацеў; ня даў рады — грэкаў і жыдоў.

Сацыялістычная Польшча зьняла бар'еры сацыяльнага ўзвышэньня, і люд умомант размыў грамадзкія запруды, гаці. У даваеннай Польшчы няцэлая палова этнічных палякаў лічыла сябе палякамі, а ў пасьляваеннай — нават аблезлы жабрак адчуў сябе палякам ды патрыётам. Беларуская дзяржаўнасьць павінна была зьявіцца тады, калі й літоўская; сёньня ў нас не было б праблемы з роднай мовай й нацыянальным пачуцьцём. Мы, беларусы, у Эўропе як дзівакі; на здаровы розум цяжка каму растлумачыць, чаму мы такія. Чаму ў беларусаў няма нацыянальнай дзяржавы, а ўсё якаясьці тэрытарыяльна-сацыяльная, ні кот і ні сабака. Мае гэта цяпер уплыў на польска-беларускае сужыцьцё ў Беластоцкім Краі. Беларусы тут як меншыня хварэюць на комплекс сірочасьці. У іх няма Маці-Айчыны. Часчасом зьяўляюцца зь Менску або Горадні ўрадоўцы, але іхная савецкасьць проста б'е ў вочы, а іхнае беларускамоўе моцна пахне дывэрсіяй. Яны нам небясьпечныя правакатары, гуляюць на адвечную расейскую стаўку, нацэленую супроць Польшчы. Некалі мы болей ім верылі, ня ведаючы аб тым, што ў Беларусі пляжаць усенька беларускае. Схізафрэнія дыпляматаў: ненавідзяць беларушчыну, але ў замежжы прыкідваюцца будаўнікамі нацыянальнага. Што гэта? Паўтор так званай беларусізацыі ў дваццатыя гады, каб зноў усіх сабраць у адзін катух ды зьніштожыць саўсім?

Ня тыя, аднак, часы. Разам з разьлівам самапалянізацыі зьмяніўся стэрэатып беларускай мовы: яна ўжо не мужыцкая, бо мужыцтва загаварыла польскай "трасянкаю". Чуючы беларускае слова на вуліцы, адразу вядома, што гэта гаворыць інтэлігент (інжынэр, лекар, юрыст, журналіст і г. д.). Прасьцяк не загаворыць пасвойму, лепей змоўчыць. Язык яму не павернецца дый ня ўмее, нашто яму ўмець?! Нацыянальнае пачуцьцё ёсьць катэгорыяй культуры. Некультурны або хто па-за беларускай культураю ня можа й ня мае маральнага права назвацца беларусам. А назваўшыся, ня ведае, што пляце ён. Не разумее, што значыць стаць Беларусам і з „чым тое ядуць". Задавіцца.

Беларускія арганізацыі на Беласточчыне зьявіліся запозна: пры канцы пяцьдзясятых пашырылася Беларускае Грамадзка-Культурнае Таварыства (яно карысталася падтрымкаю ўраду). Не змагло кранууць каталіцкую стыхію, якая тым часам самавызначылася, адназначна, польска-нацыянальнай, нягледзячы на ўсё яшчэ папулярнае ў ёй беларускамоўе ў дыялектных формах. Ад гэтага моманту можна гаварыць пра беларуска-польскае сужыцьцё, калі „тутэйшасьць" пачала курчыцца й сярод праваслаўных. У тую сярэдзіну пяцьдзясятых працавала ў карысьць беларускай сьведамасьці немалая культурная інфраструктура: спомненае Таварыства й яго тыднёвік „Ніва", беларускія радыёперадачы на беластоцкіх хвалях, кніжныя выданьні, зноў адноўленыя беларускія школы й прадмет беларускай мовы ў польскіх школах на гэтай тэрыторыі, мастацкая самадзейнасьць, асьветныя мерапрыемствы. Усётое здарылася даволі нечакана й на загад вярхоўных уладаў Польшчы. Аніякага грамадзка-істотнага руху з боку сьведамай часткі беларускага насельніцтва не было ж. Не было й паўнафарматных інтэлігентаў, акрамя дзясятка людзей зь няпоўнай сярэдняй адукацыяй, на ўзроўні настаўніцкіх сэмінарыяў некалі. Бацькі ня вельмі гарнуліся да аднаўленьня беларускіх школаў, у іх арганізацыю ангажаваліся партыйныя кадры й нават афіцэры польскіх спэцслужбаў. З пэрспэктывы паўвечча бачыцца тое досыць ясна — у фінал саракавых у Польшчы пераналі ўладу камуністы, і яны выпраўлялі шавіністычныя шкоды сваіх дзяржаўных папярэднікаў. Максымальна прыхільныя адносіны польскіх уладаў да беларускай культурна-асьветнай дзейнасьці зьдзіўляюць тым, што на такую дзейнасьць не існавала рэальна грамадзкае запатрабаваньне. Гэтую сытуацыю трэба разглядаць, відавочна, у трох аспэктах: папершае, у ідэалягічным (інтэрнацыяналізм!), па-другое, як дбайнасьць пра добрыя адносіны з Савецкім Саюзам (пабойваліся – а дарма! — рэакцыі Беларускай ССР) і, па-трэцяе, мог гэта быць намёк Менску, як трэба трактаваць савецкую польскую меншыню (прыклад польскіх школаў у Літоўскай ССР). Спрыяльная польскім беларусам палітычная пагода працягнулася крыху за дзесяць гадоў (псавалі яе, зрэшты, і самі беларусы-праваслаўныя сваймі масавымі — вуснымі й пісьмовымі – заявамі супроць утварэньня беларускіх школаў).

У польска-беларускім сужыцьці на неафіцыйным узроўні насталі благія часы: актывізацыю беларускага духоўнага жыцьця палякі вязалі з васальнымі адносінамі паміж Варшаваю й Крамлём. Погляд на беларускае насельніцтва як на „пятую калёну" не зьмяніўся ў карэнных палякаў ад даваенных гадоў, калі шумела ды гудзела Камуністычная Партыя Заходняй Беларусі, заклікаючы да яднаньня з БССР, што й адбылося ў верасьні 39-га, ува ўмовах трагічнага разьдзелу Польшчы.

У другой палове шэсьцьдзясятых афіцыйная Варшава прыйшла да высновы, што ўтвораная па ўрадавай волі гэтая беларуская культурная інфраструктура павінна паспрыяць неканфліктнай палянізацыі ўсяго насельніцтва (дайшло нават да таго, што кіраўніцтва Таварыства прызнала навучаньне дзяцей па-беларуску прыкрай перашкодай у іх разумовым разьвіцьці). Бацькі крычалі: „І куды нашы дзеці пойдуць далей вучыцца, скончыўшы беларускую школу ў Польшчы?" Фармаваўся небясьпечны для нацыянальнае справы тып „прафэсійнага беларуса", нешматлікі, як нешматлікімі былі штаты ў беларускім руху. Вобраз "прафэсійных беларусаў" характарызаваўся схізафрэннай падвойнасьцю, маральнай расколатасьцю на мяжы жульніцтва: навонкі, публічна, дэманстравалі яны беларускасьць, а ў прыватным, сямейным жыцьці ўяўлялі сабою папраўдзе палякаў (такімі й пагадавалі свае дзеці). Гэта быў тып аўтахтона на паслугах каляніяльнай адміністрацыі, бы той нэгрыцянскі царык, які марыў выправіць сваё „чада" ў мэтраполію, у Лёндан або ў Парыж.

Статыстычны паляк у беластоцкім краі ніколі не пагадзіўся з існаваньнем тут беларускай меншыні. Гэткія адносіны з часам пашырыліся й на каталіцкіх тутэйшых на Крыншчыне, сьледам за самапрызнаньнем імі сябе палякамі. Трэба адразу зазначыць, што т. зв. праваслаўныя палякі застаюцца бяз шанцаў на польскую стопрацэнтнасьць з той банальнай прычыны, што ў польскай культуры адсутнічаюць традыцыі праваслаўя, нават уніяцтва, бо русінская гэта вера. Зь некаталікоў можа быць палякам яшчэ пратэстант (напр. цяперашні прэм'ер ураду Бузэк ёсьць эвангелікам з Сылезіі). Рэлігійны аспэкт у польскім жыцьці надалей вырашальны: у Беластоку ня знойдзецца аніводзін начальнік праваслаўнага веравызнаньня на дзяржаўнай службе, адны каталікі й толькі каталікі.

Польска-беларускае сужыцьцё на самым нізкім узроўні, вяскова-местачковым, адбываецца ў сваёй сутнасьці надалей у згодзе зь філязофіяй тутэйшасьці, аўтахтоннасьці. Некалі супольная для ўсіх беларуская мова саступіла цяпер месца польскай. Новым элемэнтам у гэтай сытуацыі ёсьць нацыянальнасьць, ня ўсе былыя тутэйшыя лічаць сябе палякамі. Узьнік, хоць даволі маргінальны, адсотак крынскіх праваслаўных, якія публічна дэкляруюць сябе беларусамі. Сярод каталікоў такіх няма, хаця б інцыдэнтальна. Вынік гэта сялянскага прагматызму, татальная польскасьць.

У Крынках усё ж адсутнічае клятая стыгматызацыя праваслаўных, а нават беларусаў. Затое ў поўным росквіце гэтая зьява ў павятовых структурах, а ў рэгіянальных, ваяводзкіх, вырасла да рангу закону: аніякага ходу праваслаўным вышэй рэфэрэнтуры. Працуе прынцып дзьвюх супрацьстаўных канфэсій, узаемна непрымальных. Экумэнічныя памкненьні існуюць толькі на паперы або ў выглядзе салодкіх прамоваў. Высокая сьцяна. Гета!

Калі на Крыншчыне зь пераважна каталіцкім насельніцтвам наглядаюцца сьляды мінулае тутэйшасьці, дык у ваколылях зь пераважным праваслаўным насельніцтвам *vice versa* — Гайнаўшчына, усходняя Бельшчына — паўсюдна ўжо пануе беларускае нацыянальнае самавызначэньне, што дзіўна не перашкаджае пашырэньню там польскамоўя.

Вяртаючыся да Крыншчыны — гаспадарчы занепад і, фактычна, беспэрспэктыўе запыніла ўсякі прыход сюды нетутэйшых. Моладзь мігруе ў Беласток і іншыя эканамічныя цэнтры краіны, эмігруе на Захад, часта ў Скандынавію й яшчэ часьцей у ЗША, карыстаючыся сувязямі аселых там сваякоў. Дэмаграфічна тэрыторыя апустыньваецца, і ў недалёкай будучыні ня будзе ўжо людзей па-за мястэчкам Крынкі (дзе-ніздзе фэрмы, асяродкі турыстыкі). Эканамічна гэта ня драма, добрай зямлі тут мала, жылося на ёй калісьці нават і ня бедна, але проста па-жабрачаму (свайго хлеба хапала да Вялікадня, а скварылі раз у тыдзень, у сьвятую нядзельку). Параўнаўчы дабрабыт скончыўся разам з упадкам царскай Расеі, калі дзясяткі крынкаўскіх гарбарняў рабілі вялізныя грошы на расейскім рынку збыту (кантынэнтальным!) і прымалі на работу кожнага ахвотнага зарабіць. Тады й самі палякі багацелі. У сваёй большасьці над Віслаю ды ў Варшаве выказваліся за супольнасьць з Расеяй, незалежніцкія тэндэнцыі ў іх не былі моцнымі, трымаліся ідэі Польскага Царства ў рамках імпэрыі, з па-фінску шырокай аўтаноміяй. Першы атрад польскіх змагароў за незалежнасьць — гэта пару сот гімназістаў ды інтэлігентаў. Безь перамогі бальшавікоў палітычная Эўропа не была б зацікаўлена ўва ўтварэньні Польскай Дзяржавы. Такая брутальная праўда.

Імкненьне Польшчы ў Эўрапейскі Саюз і капіталістычная гаспадарка хутка зьмяняюць мэнталітэт. Рэлігіі й зьвязаныя зь імі нацыянальнасьці страчваюць паступова псыхакультурную першаступеннасьць. Людзі хочуць усё лепей і лепей жыць, дзеля чаго патрэбны найперш грошы, якія магчымыя ня ў рамках такой-нетакой канфэсіі ці нацыянальнасьці, але асабістага ўмельства, ступені кваліфікацыі, дасягальнай зусім не ў касьцёле.

І на заканчэньне — чаму так капітальна важная нам нацыянальная мова? Калі б у гэтым выпадку ўсё зводзілася толькі да сродку зносінаў, дык, вядома, палянізацыя ці русіфікацыя не ўяўлялі б сабою трагедыі. От, зьмена гукаў ды столькі... Але, усё тое далёка ня так. Справа ў тым, што нацыянальная мова — гэта перш за ўсё іншая ад суседзяў філязофія сьвету, разуменьне жыцьця і г. д. Той, хто ўжо размаўляе парасейску, той пачынае й думаць як Расеец (аналягічна з апалячэнцам). Зьнікненьне беларускай мовы — гэта зьнікненьне беларускага сьветабачаньня й пераход у расейскую — у нас у польскую — правінцыйнасьць. Страта беларускага цэнтру Сусьвету. А калі гэта на правінцыі жылося лепей, чымсьці ў цэнтры? Адсюль, асыміляцыя мае ня столькі культурны вынік, але й эканамічны. Як палянізаваная Беласточчына застаецца бяз шанцаў на лепшы быт і рэлятыўна з рэштай Польшчы яна галее, таксама русіфікаваная Беларусь ніколі ня вылезе з цывілізацыйнай ямы, стаўшы расейскай правінцыяй, залежнай ад інтарэсаў і фанабэрыяў Масквы.

Нехта скажа: а швайцарцы зь несваімі мовамі (нямецкай, францускай, італьянскай) або ірляндцы з ангельскай. На павярхоўны погляд гэта пярэчыць ужо сказанаму мною... Але ж усё ня так, бо гэтыя мовы сталі іх нацыянальнымі ў пару фармаваньня іхнай нацыянальнай сьведамасьці. Прыкладам кажучы, Жэнэва ганарыцца сваімі героямі ў барацьбе за адлучэньне яе ад Францыі, мелі месца антыфранцускія бунты францускамоўных жыхароў. Як і ў выпадку ірляндцаў, у іх змаганьне супроць Англіі. Ясна, што відавочную ролю й там і гэнам адыграла непадобнае веравызнаньне, як супраціў каталіцкай Ірляндыі пратэстанцкай Англіі і, наадварот, супраціў пратэстанцкай Жэнэвы каталіцкай Францыі.

У беларускай сытуацыі тыпова беларускую рэлігію — уніяцтва — зьніштожыў царызм, і таму так моцна важная нам менавіта беларуская мова, у якой фармавалася беларуская нацыя. Не было працэсу беларусізацыі ў расейскамоўнасьці ці польскамоўнасьці. Ліквідацыя беларускай мовы раўназначная ліквідацыі беларускай нацыі й яе культуры. Раўназначная таксама зь ліквідацыяй пэрспэктываў для Беларусі на цывілізацыйнае разьвіцьцё. Гэта павінна быць кожнаму з нас ясна, бы той множны рахунак: **2х2=4. Ніколі 5 ці 3.**

*"ARCHE"* *Крынкі.*

## Прэзыдэнт Польшчы папрасіў прабачэньня за злачынства ў Едвабнэ...

У Едвабнэ закончыліся ўрачыстасьці з нагоды 60 гадавіны забіцьця ў гэтым гарадку мясцоваых Жыдоў. Учора ў сваёй прамове прэзыдэнт Аляксандар Квасьнеўскі папрасіў прабачэньня за злачынства, зьдзейсьненае ў часы Другой Сусьветнай Вайны. "Сярод забойцаў былі Палякі, але нельга ўскладваць віну на ўвесь народ" – дадаў прэзыдэнт. Амбасадар Ізраэля Шэвах Вайс назваў словы Квасьнеўскага актам адвагі. Вайс заклікаў усіх людзей на сьвеце, каб зьяднаці свае сілы ў барацьбе з праявамі антысэмітызму, расізму, ксэнафобіі, зла й насільля. Аўтар артыкулу ў выданьні найбольшай бэльгійскай газэты "Ле суар" піша, што рэакцыю Палякаў на Едвабнэ параўноўваюць часта да іспыту на сталасьць польскай дэмакратыі. Гэты экзамен яшчэ не закончыўся, антысэмітызм надалей існуе ў Польшчы, дыскусія не была закрытая, а напіс на помніку ў Едвабнэ не гаворыць, хто забіў. Таму Едвабнэ яшчэ не стала гісторыяй – дадае аўтар.

Беларуская служба "Радыё Паленія".

## ШАРЭЦКІ Ў КЛІЎЛЕНДЗЕ

**Старшыня Вярхоўнага Савету 13-га склікаьня Сямён Шарэцкі перабраўся зь Вільні ў Злучаныя Штаты Амэрыкі. Гэта адбылося два тыдні таму. Ягоныя сыны й жонка атрымалі "зялёную картку" яшчэ раней, але інфармацыя пра гэта не разгалошвалася. Разьмясьціўся фармальны кіраўнік нашае заканадаўчае ўлады ў Кліўлендзе — даўнім цэнтры беларускае дыяспары ў Амэрыцы.**

Цяпер Сямён Шарэцкі падбірае супрацоўнікаў для беларускага прадстаўніцтва ў ЗША, якое, паводле нашых зьвестак, будзе складацца з трох дзясяткаў чалавек. Мяркуецца, што штаб Шарэцкага будзе каардынаваць кантакты зь Беларусяй.

Цікава, што ў віленскай кватэры Таварыства Беларускай Культуры ў Літве, якую займаў Шарэцкі, цяпер атабарыўся полацкі пісьменьнік Алесь Аркуш, што распачаў працу на віленскай радыёстанцыі "Балтыйскія Хвалі".

## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

Моцна просім не забывацца пераслаць гадавую АХВЯРУ на Выдавецкі Фонд нашае газэты...

# 60-я ўгодкі Вілейскай трагедыі

**Верасень 1939 года сімвалізаваў новую эпоху ў жыцці Заходняй Беларусі. Яе тэрыторыя пакрылася сеткай турмаў, у якія заключалі тых, хто лічыўся сацыяльна небяспечным для камуністаў. Пачаліся арышты сялянаў, памешчыкаў, асаднікаў, чыноўнікаў, служачых, інтэлігенцыі. Савецкія турмы на Заходняй Беларусі ведалі ўсе. Баранавічы, Валожын, Ліда, Нясвіж, Навагрудак, Слонім, Стоўбцы, Беласток, Маладзечна, Гродна, Ваўкавыск, Ломжа, Брэст, Кобрын, Пружаны, Ашмяны, Глыбокае, Пінск, Драгічын, Столін, Вілейка.**

4 снежня, ужо пасля прыняцця Заходняй Беларусі ў склад БССР, была ўтвораная Вілейская вобласць, і мясцовая турма пачала выконваць функцыі абласной. Па дадзеных з савецкіх афіцыйных дакументаў, на 10 чэрвеня 1941 года ў вілейскай турме налічвалася каля 1023 вязняў, у тры разы быў перавышаны польскі ліміт (350 чалавек). У турму звозілі вязняў з усяе Вілейскае вобласці, то бок з Маладзечанскага, Смаргонскага, Ашмянскага, Радашкоўскага, Пастаўскага, Докшыцкага, Глыбоцкага, Мя-дзельскага, Дзісенскага, Браслаўскага, Друйскага раёнаў. 22 чэрвеня 1941 г. у дзень пачатку нямецка-савецкай вайны быў выдадзены загад аб эвакуацыі вязняў заходнебеларускіх турмаў. Вілейскіх мусілі накіраваць у Разань. Станцыю ў Маладзечне, дзе іх перасаджвалі на цягнікі, бамбілі нямецкія самалёты, таму было вырашана пераканць арыштаваных у Барысаў, а адтуль ужо праз Оршу, Вязьму, Маскву вывезці ў Разань. Арыштаваныя павінныя былі за 5 дзён прайсці пехам 180 кіламетраў да Барысава. Дарога ішла праз Сосенку, Ілью, Плешчаніцы і далей да Барысава. У загадзе па плане эвакуацыі, падпісаным Чарнышовым, былі вызначаныя 1023 вязні, хаця польскія даследчыкі прыводзяць лічбы ад 1500 да 1800 чалавек. Самі вязні вілейскай турмы ў сваіх рэляцыях называюць лічбу эвакуяваных у 2000 асоб.

Акцыя пачалася 24 чэрвеня ў другой палове дня. Спачатку ў камеры зайшлі вартаўнікі, якія зачыталі атрыманыя ад лекара спісы хворых і няздольных да маршу. Тыя, чыё імя было агучана, заставаліся ў камерах, астатнім загадалі сабраць рэчы, пакінуць у камерах матрацы (сеннікі) і іншыя цяжкія рэчы. Каля 16 гадзін дня вязняў, апрача пакінутых папярэдне ў камерах хворых і нямоглых, вывелі на турэмны двор. Каля 200 чалавек, якія падпадалі пад расстрэльны артыкул, адвялі за турэмную браму і расстралялі. Мажліва, што сведкі тых падзеяў перабольшваюць, але расстраляных было ў любым выпадку некалькі дзесяткаў. Пра лёс расстраляных пад мурамі турмы паведаміў нам Васіль Місюль. Рэляцыю пра падзеі ў Вілейцы ён падаў у траўні 1954 г. камітэту Кангрэса ЗША, што даследаваў камуністычныя злачынствы.

"Іншы, яшчэ больш жудасны абраз бальшавіцкай апекі на беларускіх землях я бачыў пасьля таго, як бальшавікі ўцяклі з Вялейкі перад наступаючымі нямецкімі войскамі. Калі ўсе ўпэўніліся, што наехаўшыя з Савецкай Расеі бальшавікі ўцяклі, а іх мясцовыя памоцнікі пахаваліся, то шмат народу захацела адведаць турму, з якой у начы выгналі ўсіх арыштованых невядома куды. У турме нашым вачом паказаліся абставіны, у якіх бальшавікі трымалі людзей і якіх нельга было забыцца да сьмерці. На ніжэйшым паверху камэры былі высака забалочаныя нячыстотамі, урынай, бруднай саломай. Вышэйшыя камэры былі пазаліваныя нячыстотамі з парашак. Смурод у будынку быў не да вытрыманьня. На турэмным панадворку была пабудаваная невялікая зямлянка, з якой ішоў акрываўлены сьлед па зямлі ад нечага цяжкага валочанага ў бок сьвежа закопанай траншэі тут жа на гарадзе. У зямлянцы мы пабачылі моцна апырсканую кроўю сьцяну, на якой было шмат дзюрак ад куль. На падлозе з пяском быў аграмадны грыб згусьцелай крыві. Тут стралялі людзей, якіх пасьля цягнулі па зямлі ў траншэю. На другі дзень створаная гарадзкая ўправа, пад кіраўніцтвам Л.Сапешкі, прыступіла да раскопак на турэмным панадворку. Я бачыў як адкапалі адну самую сьвежую траншэю. Тут былі застрэленыя куляй у патыліцу людзі, са зьвязанымі назад калючым дротам рукамі, уложаныя адзін каля другога і прысыпаныя ня тоўстым слоем зямлі. Пласты людзей ляжалі адзін над другім, разьдзеленыя ня тоўстымі слаямі зямлі. Пры мне адкапалі тры пласты яшчэ сьвежых трупаў. Шмат хто з людзей мог распазнаць сваіх родных, ці знаёмых па твары, а ў ніжэйшых пластох — па вопратцы. Далейшых раскопак я не бачыў, бо на падворку турмы немагчыма было стаяць дзеля цяжкога паху ад адчыненых магіл. Пры мне было вырыта больш за сотню трупаў. Распазнаных забралі родныя з бліжэйшых вёсакі пахавалі на сваіх магілках. Рэшту ахвяраў перавезьлі на гарадзк могільнік і пахавалі па хрысьціянскаму абраду. Агулам знойдзена ў вялейскіх траншэях каля 500 трупаў людзей, вымардаваных НКВД за паўтара году савецкай улады. Так было ў невялічкай Вялейцы, але ж такія парадкі былі пад саветамі па ўсёй шматпакутнай Беларусі".

Згодна з нямецкімі справаздачамі і тагачаснай прэсай, колькасць знішчаных каля муроў складае 500-800 чалавек. Але вернемся да астатніх вязняў. Іх падзялілі на дзве раўназначныя групы. Адасобілі ад гэтых двух групаў жанчын, што ішлі па-за асноўнымі калонамі. Вілейскіх вязняў надзейна ахоўваў конны канвой. Ёсць сведчаньні, што ў суправаджэньні вязняў брала ўдзел уся віленская міліцыя, якая панічна ўцякала на ўсход. Першыя расстрэлы былі каля вёскі Касута паміж Вілейкай і Іляй. Апоўначы калоны арыштантаў дасягнулі вёскі Сосенка. Пры падыходзе да вёскі нечакана прагучалі стрэлы – хутчэй за ўсё, давалі загад спыніцца. Энкавэдысты паклалі вязняў на шашу. Па невядомых прычынах канваіры пачалі страляць па арыштаваных, як у адной, так і другой калоне. Пасля страляніны не даліčыліся каля дзесяці чалавек. Першы адпачынак быў у мястэчку Ілля, у 30 кіламетрах на ўсход ад Вілейкі. Там вязні атрымалі па кавалку хлеба, пяць кавалкаў цукру; вады, праўда, было дастаткова. Адпачыўшыя дзве-тры гадзіны, вязні рушылі далей. Перад Плешчаніцамі калону нагналі нямецкія самалёты. Вязням загадалі палегчы на шашу, ахоўнікі пахаваліся па равах, і невядома з якіх прычынаў пачалі страляць з вінтовак, карабінаў, кулямётаў па самалётах. На такую страляніну звярнулі ўвагу нямецкія лётчыкі, якія развярнулі машыны і скінулі дзевяць бомб на канвой. На шчасце, забітых сярод арыштантаў не было, але некалькі канваіраў загінулі ці былі параненыя. Перапужаныя нямецкімі бомбамі, коні з перавернутымі павозкамі разбегліся. Гэта моцна разлавала карнікаў, і пачалася бойня.

Вязьням загадалі кінуць свае пажыткі і бегчы да лесу, які быў у некалькіх дзесятках метраў ад дарогі, бо ісці дарогай было небяспечна. Там, у лесе, савецкія салдаты прымусілі вязняў бегчы лесам. Няшчасныя беглі некалькі кіламетраў. Тых, хто адставаў, а гэта былі старыя і бяссільныя, расстрэльвалі. Потым, дзеля ашчаджэньня куляў, вязняў заколвалі штыхамі. Некаторыя вязні патрапілі ў багну, каб не важдацца з імі канваіры… пастралялі іх з вінтовак. Вось што ўспамінаў сьведка таго дзікага маршу Францішак Пілярскі: "Людзі падалі ад знемажэньня. Тады іх калолі штыхамі два ці тры разы і далей. Па астатніх стралялі беспярапынна. Казік Ракоўскі дапамагаў свайму стрыечнаму брату, я яму дапамагаў. Да нас падбег адзін з энкавэдыстаў і зароў: "Бросай его". Дулам рэвальвера настаўляў то на мяне, то на Казіка. Мы кінулі стрыя Казіка. Энкавэдыст выпаліў з рэвальвера двойчы ў галаву і бедны Ракоўскі зарыўся носам у зямлю. Мы беглі далей. Старх перад забойствам гнаў нас наперад".

Колькі ж загінула людзей пад Плешчаніцамі? Вязень Баляслаў Янцэвіч назваў лічбу ў 500 чалавек, у кнізе Рышарда Шаўлоўскага "Польска-савецкая вайна 1939 г." называецца 108 чалавек. 28 чэрвеня значна парадзелыя калоны дайшлі да Барысава. На ўскраі горада слабейшых пагрузілі на аўтамабілі і завезлі на станцыю. Там вязняў пагрузілі ў таварныя вагоны, замкнулі дзверы. У гэты момант адбыўся новы налёт нямецкіх самалётаў. Канваіры паразбягаліся. Цягнік з вязнямі стаяў паміж вайсковымі цягнікамі, таму арыштанты патрапілі ў самы эпіцэнтр абстрэлу. Праз Оршу, Вязьму, Маскву ацалелых даставілі ў Разань.

*Алег ГАРДЗІЕНКА.*

## Паведамляецца, што:

У выдавецтве «Голас КРАЮ» падрыхтаваны й выдадзены даведнік **«Беларускі нацыяналізм»**. Брашура зьмяшчае матэрыялы, прысьвечаныя беларускаму нацыяналістычнаму руху. У даведніку пададзены зьвесткі пра асобы беларускіх нацыяналістаў, арганізацыі, асобныя нацыянальныя вайсковыя й партызанскія аддзелы ды фармаваньні.

Каляндар беларускага нацыяналіста дасьць магчымасьць пазнаёміцца з асноўнымі падзеямі гісторыі нацыянальнага руху, жыцьцём ды дзейнасьцю змагароў за Беларусь. Прадстаўленыя матэрыялы ў асноўным асьвятляюць падзеі дваццатага стагоддзя. Мэта даведніка — пазнаёміць з малавядомымі фактамі, лёсамі асобаў, якія наўмысна замоўчваюцца ды перайначваюцца афіцыйнай гістарыяграфіяй. Кніга багатая на фотаздымкі, многія зь якіх друкуюцца ўпершыню.

Даведнік «Беларускі нацыяналізм» скіраваны на шырокія колы чытачоў, будзе цікавы ўсім, каму не абыякавыя мінулае, сучаснасьць ды будучыня Беларускага Народу, Бацькаўшчыны.

Жыве Беларусь! Жыве вечна!

# Эскадрон сьмерці на Беларусі — не выдумка

Патэнцыйны кандыдат у прэзыдэнты Ўладзімер Ганчарык перадаў журналістам копіі матэрыялаў, якія даказваюць прыналежнасьць уладаў да дзейнасьці «эксадрону сьмерці», які зьнішчаў палітычных апанэнтаў цяперашняга кіраўніка дзяржавы.

Паводле дакумантаў, распаўсюджаных Уладзімерам Ганчарыкам, Віктар Шэйман аддаў загад зьнішчыць Юрыя Захаранку. Уладзімер Ганчарык агучыў зьмест дакумантаў пра зьніклых у Беларусі вядомых асобаў. Гэтыя дакументы, як прагучала на прэсавай канфэрэнцыі, даюць падставы падазраваць цяперашнія ўлады ў палітычных забойствах.

Уладзімер Ганчарык агучыў рапарт генэрал-маёра міліцыі Лапаціка, які той падаў летась 21 лістапада на імя міністра ўнутраных справаў Уладзімера Навумава. У гэтым дакуманце гаворыцца: «У дадзены час Шэйман даў указанне фізічна зьнішчыць былога міністра ўнутраных справаў Захаранку Ю.М. Інфармацыйнае забесьпячэньне месцазнаходжаньня Захаранкі для дзеяньняў Паўлючэнкі было забясьпечанае спэцпадразьдзяленьнем Васільчанкі Н.В. - указаньне, якое яму таксама даў Шэйман праз сваіх супрацоўнікаў. Акцыя захопу і наступнага зьнішчэньня Захаранкі была ажыцьцёўленая Паўлючэнкам, камандзірам роты СОБРа і камандзірам першай роты спэцназу ды чатырма ягонымі байцамі. 8 траўня 1999 году пісталет Паўлючэнка здаў Алкаеву. Паводле аналягічнай камбінацыі, 16 верасьня 1999 году Паўлючэнка правёў акцыю захопу і зьнішчэньня Ганчара В.І. ды Красоўскага А.С. Месца пахаваньня трупаў Захаранкі, Ганчара, Красоўскага - спэцучастак лягерных магілаў на Паўночных могілках», -- сьцьвярджаецца, як зазначыў Уладзімер Ганчарык, у рапарце генэрала Лапаціка, які на той час займаў пасаду начальніка галоўнага ўпраўлення крымінальнай міліцыі МУС. Яшчэ адзін дакумант, са зьместам якога пазнаёміў журналістаў Уладзімер Ганчарык -- рапарт начальніка сьледчага ізалятара палкоўніка міліцыі Алега Алкаева. У ім, у прыватнасьці, размова ідзе пра адмысловы пісталет з глушыльнікам, якім выконвалі сьмяротныя прысуды і які, адпаведна дакуманту палкоўніка Алкаева, двойчы, паводле ўказаньня тагачаснага міністра ўнутраных справаў Сівакова, запатрабаваўся дзеля нейкіх мэтаў. Першы раз пісталет выдалі 30 красавіка 1999 году, а вярнулі 14 траўня. Другі раз зброю выдалі 16 верасьня, а праз два дні, 18 верасьня, яе вярнулі Алкаеву. Уладзімер Ганчарык параіў зьвярнуць увагу на гэтыя даты і даты зьнікнення Захаранкі, Ганчара ды Красоўскага. Ганчарык:

-- У асноўным гэта ўсё супадае. Выдаваўся пісталет Паўлючэнку ці не выдаваўся? Ён выдаваўся празь нейкіх асобаў, якія названыя. Мая вэрсія такая: гэта было, і людзі аддавалі каманды. Бо ніякае падразьдзяленьне без камандаў ня дзейнічае. Вельмі шмат супадзеньняў, і справа ўлады сказаць, што гэта так альбо не. Ўладзімер Ганчарык накіраваў усе гэтыя дакументы на адрас Аляксандра Лукашэнкі, але ніякага адказу ад яго не атрымаў. Камэнтуючы маўчаньне Лукашэнкі, ён зазначыў: Ганчарык:

-- Гэта можа азначаць толькі, што ён вельмі занепакоены. Але пытаньне ў тым – ён занепакоены тым, як высьветліць ісьціну альбо як апраўдацца?

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

## КОРАТКА...

**Прыкладна на 20 даляраў за квадратны мэтар узрасьлі з пачатку году сярэднія цэны на кватэры ў Менску.** У "лідэрах" апынуліся аднапакаёўкі. Калі ў студзені можна было набыць кватэрку недзе ў Шабанах за 6500 даляраў, дык сёньня найтаньнейшая будзе каштаваць 7500—8000 даляраў. Але й гэта не мяжа. Менскія рыэлтэры мяркуюць, што ўвосень цэны павялічацца яшчэ на 10—15%.

****************************************

Сапраўднай сэнсацыяй сталася дасьледаваньне беларускіх геолягаў, праведзенае ў Стаўпецкім раёне ля Аколава. Там, выявілася, ёсьць радовішча кварцытаў з утрыманьнем жалеза каля 36%. Спэцыялісты ўжо падлічылі, што тае руды з-пад Стоўпцаў хопіць для работы Жлобінскага мэталюргічнага камбінату сама меней на 30—35 гадоў

# Навіны культурнага жыцьця ў Чыкага

Эмігранты так званай "апошняй хвалі", тыя, хто прыехаў пераважна ў васьмідзесятыя – дзевяностыя гады мінулага стагодьдзя з розных рэспублік былой савецкай імпэрыі, арганізавалі ў Чыкага грамадскае аб'яднаньне "Землякі". Часам яно запрашае на розныя мерапрыемствы тых, каго звязаюць між сабой успаміны пра сваю былую радзіму.

У адну з нядзеляў ліпеня на сустрэчу, прысьвечаную чарговай гадавіне вызваленьня Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у зале чыкагскага ОРТ-інстытута сабралося беларускае зямляцтва. Гасьцей віталі кіраўнікі аб'яднаньня "Землякі" Аркадзь Клебан і Іосіф Кацман. "Мой родны кут, як ты мне мілы, забыць цябе ня маю сілы!" – гэтымі дарагімі для кожнага коласаўскімі радкамі пачалася літаратурная кампазыцыя ў натхнёным выкананьні Міры Рапапорт, былой настаўніцы беларускай мовы і літаратуры ў адной са школаў Гародні. Адначасова ішоў паказ на вялікім экране слайдаў з беларускімі краявідамі.

Са сваімі ўспамінамі пра ўдзел у мінулай вайне выступілі яе былыя ўдзельнікі, ветэраны Яфім Спектараў і Леанід Спявак. А потым пачалася канцэртная праграма. Песьні гучалі ў выкананьні Марата Віленскага, Валянціны Марчанкі. Вельмі цёпла быў сустрэты прысутнымі паэт, кампазытар і сьпявак Міхась Клейнер. Ён бліскуча выканаў свае песьні на вершы беларускіх паэтаў Уладзімера Дубоўкі, Алеся Салаўя, Рыгора Барадуліна, а таксама песьні на свае тэксты, што гучалі парасейску і на мове ідыш.

Вялікім посьпехам карысталася выступленьне маладога гітарыста Яўгена Данілава. Улюбёны ў беларускую музыку, ён цікава і з захапленьнем выканаў варыяцыі на тэмы мелёдый, што гучалі яшчэ ў славутым "Полацкім сшытку". У канцэрце брала ўдзел скрыпачка Лілія Кісіна, музыка-імправізатар Аркадзь Певны, акампаніятар Эла Дольнікава, свае вершы чытала Эсфір Гланцман. Упрыгожваньнем усёй праграмы зьявілася выступленьне дзіцячага танцавальнага гуртка "Лянок", які арганізаваны спадарыняй Ірынай Бажко пры чыкагскай Беларускай праваслаўнай царкве сьвятога Юр'я. У прыгожых беларускіх строях дзяўчаты выканалі некалькі народных танцаў – "Арэлі", "Крыжачок", "Лявоніху" ды іншыя.



1. Танцуюць дзяўчаты ансамблю "Лянок".

У перапынках між канцэртнымі нумарамі гучэлі танцавальныя мелёдыі. Танцавалі усе, хто прыйшоў на гэту сустрэчу, – і самыя маладыя, і тыя, каму ідзе ўжо дзевяты дзесятак. У той вечар падумалася, што, мабыць, гэта вельмі важна ў жыцьці – не забываць радзімы, роднай шматпакутнай Беларусі, спадзеючыся на шчасьлівы лёс для ўсіх, хто жыве на яе зямлі.

*** * * *

Вядомы ў Чыкага кампазытар, паэт і сьпявак Міхась Клейнер завяршыў нядаўна працу над музычна-вакальным цыклам "Я ў душы застаўся юнаком". Сюды ўвайшлі 18 рамансаў на тэксты Рыгора Барадуліна з яго апошняй кнігі "Зорка спагады", 13 песень і рамансаў на вершы Генадзя Бураўкіна, зьмешчаныя ў яго таксама новым зборніку "Паміж зоркай і сьвечкай", а таксама раманс "На могілках" на словы Міхася Чарота. Сабраўшы на сваёй кватэры сяброў і знаёмых, Міхась Клейнер наладзіў прэзентацыю ўсяго цыкла, які вызначаецца цудоўным пранікненьнем у сутнасьць задумаў паэтаў, шчырай меладычнасьцю і напеўнасьцю, сучаснымі рытмічнымі інтанацыямі.



2. Сьпявае Міхась Клейнер.

*** * * *

У Чыкага, Нью-Ёрку, Саўт-Рыверы, Бостане адбыліся выступленьні выдатнага сучаснага беларускага барда, кампазытара, паэта і выканаўцы Віктара Шалкевіча, які быў у Амерыцы па запрашэньню арганізацыі "Heartland International". Ягоныя песьні прасякнутыя шчырай любоўю да роднай Беларусі, сур'ёзным роздумам пра яе гісторыю, сучаснасьць, пра яе будучыню. "Грамадзянам колішняга Вялікага Княства Літоўскага прысьвячаю" – так гучыць прысьвячэньне да ўсіх канцэртаў і дыскавых запісаў Віктара Шалкевіча.

Па прафесіі Віктар Шалкевіч – актор, таму выкананьне кожнай яго песьні нагадвае невялічкі спектакль. Развіваючы лепшыя народныя традыцыі, Віктар Шалкевіч шукае новыя сучасныя рытмічныя і мелёдычныя інтанацыі як у сваіх сур'ёзных песьнях-роздумах, так і ў сьпевах, прасякнутых гумарам, іроніяй, часам пародыяй і горкім сарказмам. Прычым усё гэта шчыра, непадробна зьвязана з жыцьцём беларускага

Жадаючы Віктару Шалкевічу новых творчых посьпехаў, хочацца прывесьці (з ягонай згоды) яго верш, напісаны спецыяльна да сьпектакля паводле "Тутэйшых" Янкі Купалы, у якім ён удзельнічаў.

**Ванкарэм Нікіфаровіч** (Чыкага).



3. Выступае Віктар Шалкевіч.

* * *

Віктар Шалкевіч

**Кароткая гісторыя Беларусі**
Песьня

А на Пярэсьпі музыка іграе,
Народ стаіць і толькі пазяхае,-
Бо нейкія засранцы сапсавалі танцы:
Худыя, як цьвікі, кажуць, што бальшавікі…

А помніш, Антак, як таму з тры рокі
Увосень з лесу да нас лёталі сарокі,
А потым Шлёма з Груцаю зрабілі рэвалюцыю
І танцы, пся іх маць, усе нам пачалі псаваць.

Аркестра грала польку-трамблямблянку,
Я да сябе пяшчотна цісну Маньку…
Грукнулі сенцы – завіталі немцы, –
Ў вантробе прыпякло, што аж з носу пацякло.

І толькі скрыпку ў рукі ўзяў стары Мікіта,
Каб нам урэзаць танга "Кампарсіта",
Загаўкалі сабакі – прыехалі палякі,
І стала, брат мой, тых палякаў, як сабак.

Зноў на Пярэсьпі музыка іграе,
Народ стаіць і толькі пазяхае,
Бо зноў прыйшлі засранцы, папсавалі танцы
Худыя, як цьвікі, кажуць, што бальшавікі.



# ВІТАЕМ!

— Лорэн Тіммэрман-Lauren E. Timmerman з Дэтройту, дачку Лены Сажыч-Тіммэрман, унучку Др. Я. Сажыча з заканчэньнем студыяў на WSU з тытулам — доктар права.

Лорэн заўсёды і ўсюды з гонарам пакрэсьлівае сваё беларускае паходжаньне і трэба спадзявацца, што яна з часам уключыцца ў грамадзка-палітычную працу на карысьць беларускага народу.

**9-га верасьня 2001 году адбудуцца выбары Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь.**

Грамадзяне пражываючыя ў штатах Нью-Ёрк, Нью-Джэрзі, Канэктыкут, Род-Айлянд, Мэйн, Нью-Гэмпшыр, Масачусэц, Пэнсыльванія, Мічыган, Вісконсін, Індыяна, Мінэсота ды Айова, запрашаюцца прыняць удзел у галасаваньні на ўчастку для галасаваньня, які размешчаны пад адрасам: **708 3rd Avenue, 21st Floor, New York 10017, Гэнеральнае консульства Рэспублікі Беларусь, з 8-е да 20-е гадзіны.**

Усе астатнія грамадзяне запрашаюцца прыняць удзел у галасаваньні на ўчастку для галасаваньня, які размешчаны пад адрасам: **1619 New Hampshire Avenue NW, Washington, DC. 20009, Пасольства Рэспублікі Беларусь, з 8-е да 20-е гадзіны.**

Калі Вы ня будзеце мець магчымасьці прыйсьці на ўчастак для галасаваньня ў дзень выбараў, паведамляем, што ў адпаведнасьці з Выбарчым кодэксам Рэспублікі Беларусь Вы можаце прагаласаваць датэрмінова з 4-га па 8-га верасьня 2001 году ўключна з 10 да 14 гадзін у памешканьні ўчастковай выбарчай камісіі. Пры галасаваньні Вы павінны мець пашпарт.

У склад участковай камісіі ўваходзіць 7 чалавек.

**Тэлефон у Вашынгтоне: (202) 986-1606; у Нью-Ёрку: (212) 682-5392.**

# Расея – дзікая краіна…

…Россия — дикая страна, в которой не пахнет никакими реформами. И о какой демократии можно говорить применительно к России? Нужно быть или дебилом, или иметь шоры на глазах, или быть неразвитым, неинформированным человеком. Всякая демократия подразумевает свободные выборы. А были ли парламентские выборы в России свободными? Выборы в Думу в конечном счете превратились в уничтожение двух реальных кандидатов на пост президента России — Примакова и Лужкова. Они были дискредитированы начисто. Сегодня никто ничего не повторит из того, что было сказано тогда про Лужкова. И где сегодня Доренко? Но важно было сказать вовремя, потому что сразу за парламентскими шли президентские выборы. И все знали, что они будут досрочными. Демократия подразумевает парламент. А есть ли у нас парламент? Прошлым летом была уничтожена верхняя палата. Сейчас она состоит из людей, которые делают все, что скажут в администрации президента. Да и нижняя палата — тоже...

*— Что вы думаете о российско-белорусском союзе?*

— Думаю, те, кто сегодня руководит страной сделают все, чтобы этого союза не было. Ибо Запад, и в первую очередь Америка, против этого союза. Впрочем, они против всякого объединения, и не только с Беларусью. Они не дадут России встать на ноги. Союз — абсолютно гиблое дело. Это все понимают, в том числе и Лукашенко…

Так думае Станіслаў Гаварухін – дэпутат Дзяржаўнай думы Расеі і кінарэжысёр. (БДГ)